PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 36 (2208) Год XLIII Беласток 6 верасня 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Зноў выбары

Яўген Мірановіч

Яшчэ не астыла атмасфера пасля мінулагодніх парламенцкіх выбарах, а ўжо пачалася вострая выбарчая кампанія да самаўрадаў. Парламенцкія выбары гэта заўсёды змаганне за вялікія грошы і ўплывы для некалькіх асоб у ваяводстве. Самаўрадавыя — адкрываюць доступ да публічнай касы для некалькіх тысяч лакальных дэпутатаў. Таму трэба чакаць, што ўсялякія платы і нефармальныя падаткі будуць пастаянна ўзрастаць.

Ад некалькіх тыдняў беластоцкая прэса піша, перш за ўсё, пра канфлікт у салідарніцкім лагеры, дзе пару лідэраў вядуць змаганне за кіраванне клерыкальна-нацыяналістычным задзіночаннем, якое складаюць пару дзесяткаў партый. У асноўным узніклі дзве групы — адна аб'яднаная вакол прэзідэнта горада Беластока Кшыштафа Юргеля, а другая — вакол шэфа салідарніцкага прафсаюза Юзэфа Мазалеўскага. Першы мае падтрымку мітрапаліта беластоцкага Станіслава Шымэцкага, другі — самога Мар'яна Кшаклеўскага. Хаця змаганне за правадырства на Беласточчыне ідзе ўжо амаль цэлы год, толькі цяпер штораз больш выразна відаць, што перамога атрымаецца на баку Мазалеўскага.

Усё паказвае, што салідарніцкі лагер далей будзе мець уладу не толькі ў Беластоку, але і ў цэлым ваяводстве пасля выбараў. Ягоны лідэр будзе тут вырашаць пра кадравую палітыку і галоўныя напрамкі гаспадарчай і культурнай дзейнасці самаўрадавых органаў. У мінулай кадэнцыі гарадской рады ў Беластоку камунальная адміністрацыя разраслася на 150 працэнтаў. Штаты знайшліся перш за ўсё для дзеячаў усялякіх нацыяналістычных арганізацый. Цяпер відаць трафей у выглядзе ўправы падляшскага ваяводства. Ёсць за што змагацца. Пераможцаў чакаюць немалыя ўзнагароды. А падаткі пакуль што ёсць каму плаціць.

Усё вышэйсказанае не абазначае яшчэ, што клерыкальна-салідарніцкі лагер не мае тут ніякай канкурэнцыі. Наадварот, існуе даволі моцны посткамуністычны блок, які таксама вельмі рацыянальна рыхтуецца да гэтых выбараў. Яго слабасць, аднак, заключаецца ў тым, што асноўную масу электарату складае тут насельніцтва праваслаўнага паходжання. Каталікі, якія ў новым ваяводстве будуць складаць каля 85 працэнтаў усіх жыхароў, на Беласточчыне вельмі дысцыплінавана аддаюць галасы на сваіх кандыдатаў. Таму левыя не маюць вялікіх шанцаў на перамогу ні ў горадзе, ні ў ваяводстве. Трэба, аднак, павіншаваць лідэра левых дэмакратаў Збігнева Кшывіцкага за тое, што ўдалося яму аб'яднаць

[працяг ☞ 3]



На Спаса ў Грабарцы

## Кожны адкажа сам сабе...

Ада Чачуга

Напярэдадні Спаса над Беластокам прайшла доўгатрывалая навальніца з перунамі і маланкамі, і аж страх было падумаць, што нешта такое магло б здарыцца назаўтра ў Грабарцы.

Не, ранічкай 19 жніўня Святая Гара вітала чыстаблакітным небам мора людзей, што прыйшлі і прыехалі сюды; свяціла сонца.

Паломнікі прыйшлі ўжо ў папярэдні дзень і абышлі Спаса-Праабражэнскую царкву на каленях, а таксама бралі ўдзел у вячэрні. Як заўсёды, найбольш было іх з Беластока, да іх далучыліся пілігрымы з Беларусі, Расіі, Украіны, Партугаліі. Зрэшты, адсюль рушыла першая група пешых паломнікаў у 1986 годзе. Арганізатарам было Брацтва праваслаўнай моладзі.

Не, не было балагану. Дарожная паліцыя кіравала рухам і не падпускала самаходаў, якія ехалі рознымі дарогамі, занадта блізка да гары, а ўказвала месцы, дзе можна было паставіць машыну. Такіх аўтамабільных „стаянак" было сёлета многа. Некаторым, аднак, удалося пад'ехаць ледзь не да царквы. Мецэнас Пятро Юшчук, які прыехаў сюды з сям'ёй, знайшоў тут месца не толькі на машыну, але і на невялічкую палатку для сваіх трох дачушак-малалетак, ды нават на столік і зэдлікі. Усё залежыць ад вопыту! Заняўшы месца ў засені дрэў ля цэнтральнай дарогі, вядучай да манастыра св.св. Марфы і Марыі, можна было ўбачыць усіх, ды і цябе ўсе бачылі. Падыходзілі, віталіся, абдымаліся, гутарылі. Падышлі і мы, пасля — Анна Стэльмашук, прыяцелька „Нівы" з Засцянак, тая, што сама пячэ ў Беластоку хлеб. Сёння збірала на новую царкву ў Засцянках.

Каля самой Спаса-Праабражэнскай царквы дамінаваў настрой бязмежнай павагі. Было шмат моладзі. Многія стаялі на каленях, падлажыўшы сабе плечы. Сёлета літургію ўзначаліў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы архіепіскап Сава. Паломнікі маліліся, а рэлігійныя песні плылі з царквы і луналі над Святой Гарою Грабаркай.

Унізе, пад гарою, людзі стаялі ў чарзе, каб набраць у бутэлькі святое вадзіцы, абмывалі сабе хворыя месцы ху-

[працяг ☞ 9]

## Фэст „Цэрамікі"

У нядзелю 23 жніўня Керамічны завод у Старым Ляўкове, адзначыў трыццацігоддзе прадукцыйнай дзейнасці. З выпадку юбілею на прызаводскім пляцы былі арганізаваны розныя забаўляльныя мерапрыемствы.

[болей ☞ 3]

## Распачалася пабудова

— Да сёння выдаткавалі мы на будову недзе 220 тыс. злотых, а каб закончыць будову і мадэрнізаваць адзін будынак трэба будзе яшчэ пад 2 мільёны злотых. Будову плануем закончыць у верасні 2001 года, — гаворыць войт гміны Дубічы-Царкоўныя Анатоль Паўлоўскі.

[чытайце ☞ 3]

## Малавядомыя факты

Перасяленнем займаліся аддзелы ПУР (PUR — Państwowy Urząd Repatriacyjny). У справаздачах беластоцкаму ваяводу гэтыя ўстановы прапанавалі адсунуць беларусаў ад дзяржаўнай мяжы і насяліць пагранічную тэрыторыю палякамі. Былі таксама прапановы індывідуальна перасяліць беларусаў на заходнія (вернутыя) землі. Па прычыне антыпольскасці пераселены мелі быць жыхары Юраўлянаў, Лапічаў, Грыбоўшчыны, Уснажа-Гурнага, Бабінкі, Баброўкі, Хлевішчаў, Такароў і Вычулак.

[знойдзенае ў архівах ☞ 4]

## Чэшскія гадавіны

Навейшая гісторыя чэхаў вучыць, што народ можа без вялікіх страт ператрываць кожную акупацыю, абы толькі хацеў астацца сабою. Чэхі падчас шасцігадовай нямецкай акупацыі патрацілі толькі пару соцен чалавек. Беларусы на працягу трох гадоў патрацілі два мільёны сваіх грамадзян.

[каментарый ☞ 4]

## Будаваць масты, ліквідаваць бар'еры

*Народы — гэта перажытак, прысуджаны на адміранне. Нацыянальныя адасобленасці захаваюцца толькі ў фальклорнай форме.* Знаёмае? Так, але здавалася, адышло ў нябыт разам з перадавым грамадска-палітычным ладам. А тым часам гэтыя словы пачуў я якіх два тыдні таму ад маладога немца з Берліна, і то з тае часткі горада, якая яшчэ нядаўна была Заходнім Берлінам.

[артыкул ☞ 4]

## Вандроўнае слова на Беласточчыне

Яны ўжо 32 гады нясуць роднае слова па розных кутках Беларусі. У Польшчы — на Беласточчыне — выступаюць безупынна ад 1991 года. Тэатр Пединститута з Мінска „Жывое слова" ў гэтым годзе вандраваў па вёсках Гайнаўшчыны, каб тутэйшую штодзённую арасіць жывой беларускай культурай.

[фотарэпартаж ☞ 8]

# Беларусь — беларусы

## Еўрапейская пілігрымка

**(Нататкі аб святкаванні 80-х угодкаў БНР у беларускім замежжы)**

*(працяг; пачатак у 29 н-ры)*

**Зноў у Празе**

Па дарозе прыпыніліся ў Нюрнбергу. Прыгожы горад, прываблівае старажытнымі будынкамі ў цэнтры. Утульнасць гэтага еўрапейскага горада нeяк вельмі была адпаведна і нашаму разуменню гарадскога асяроддзя, якім павінна яно быць. Нашы старажытныя беларускія гарады таксама маюць такія рысы. Што ні кажы, а ўсюды мы адчуваем сваю лучнасць з еўрапейскаю культурай, яна ва ўсім нашым характары, у нашым светаўспрыманні.

У восем гадзін вечара перасеклі мяжу з Чэхіяй. Тут ужо быў пагранічны кантроль, але ўся аперацыя заняла не больш 10 хвілін. Праз тры гадзіны дабраліся ў Прагу. Асветленая вечаровымі агнямі старажытная Прага выглядала прыгожа, асабліва Пражскі град на ўзвышшы. З прыемнасцю думаю аб тым, што Прага апошнім часам ізноў набывае асаблівую значнасць для беларусаў. Паступова тут адраджаецца беларуская прысутнасць. Усё пачалося з пераезду ў Прагу радыёстанцыі „Свабода". Журналісты беларускай рэдакцыі складаюць зараз найбольш значную беларускую групу ў Празе. Менавіта з іх удзелам была створана суполка „Скарына" пад кіраўніцтвам Юры Станкевіча. Кіраўнік беларускай рэдакцыі Вячка Станкевіч усялякім чынам спрыяе дзейнасці суполкі. З'явіліся тут апошнім часам і новыя эмігранты з Беларусі. Пры такой сітуацыі мы мелі магчымасць разлічваць на дапамогу ад пражскіх беларусаў у нашай вандроўцы. Супрацоўнік беларускай рэдакцыі Мікола Іваноў арганізаваў нам начлег у адным з гатэляў Радыё ў самым цэнтры Прагі. Даволі камфортна пераначавалі і назаўтра цэлы дзень прысвяцілі знаёмству з Прагаю. Некаторыя былі тут упершыню. Для мяне асабіста было прыемна яшчэ раз наведаць Прагу, хоць я была тут усяго два тыдні назад. Вядома, найперш наведалі Альшаны, агледзелі тут беларускія магілкі, ушанавалі памяць абодвух прэзідэнтаў БНР. Затым паехалі на Брусніцы, да Скарыны. Ёсць недалёка ад Пражскага граду цудоўны скверык. Тут беларусы маюць свой куточак, дзе стаіць знаёмая постаць вялікага асветніка — помнік, адчынены ў канцы кастрычніка 1996 г. У той жа час у двары Нацыянальнай бібліятэкі Чэхіі — Клеменцінума — была ўстаноўлена і мемарыяльная дошка, прысвечаная Скарыну. Помнік і дошка былі прывезены з Мінска і з дазволаў уладаў Прагі для іх устаноўкі былі выдзелены месцы. Цяпер імя Францішка Скарыны годна ўшанавана ў горадзе, дзе ён жыў і, як сцвярджаюць даследчыкі, памёр і пахаваны. Мне давялося быць на ўрачыстасцях, якія тады адбываліся ў Празе. Кожны раз, наведваючы Прагу, не магу абмінуць Скарынавы месцы. Як давялося чуць, зараз пакланіцца бронзаваму Скарыну прыходзяць амаль усе свядомыя беларусы, каму здараецца нагода пабыць у сталіцы Чэхіі. Надвор'е ў гэты суботні дзень было добрае, вясна ў Празе выглядала цудоўна. Было прыемна і цікава прайсціся па шумлівых, старажытных вуліцах Прагі, агледзець знакаміты Пражскі град, Карлавы мост, шпацыраваць па Вацлаўскай намесці. Назаўтра тут паблізу ад помніка святога Вацлава мы павінны былі сустрэцца раніцаю і наведаць размешчаную паблізу радыёстанцыю „Свабода" на вул. Вінаградскай 1.

*(працяг будзе)*

**Ганна Сурмач**

## Расійскі крызіс Беларусі не закрануў

19 жніўня г.г. старшыня Беларускага нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч сказаў па тэлебачанні, што расійскі фінансавы крызіс беларускай банкавай сістэмы „непасрэдна" не закрануў. Пракаповіч дадаў, што спадзеючыся крызісу ў Расіі яго банк рэкамендуе беларускім камерцыйным банкам рэзка абмежаваць гандаль расійскімі каштоўнымі паперамі. Выказаў ён таксама занепакоенасць беларускім экспартам у Расію ў выпадку, калі расійскі крызіс прычыніцца эканамічнаму зніжэнню. Пракаповіч падкрэсліў, што Нацыянальны банк намерваецца стрымаць сваю абяітніцу, дадзеную некалькі месяцаў таму, увесці з канцом года адзіны курс беларускага рубля ў безнаяўных разліках.

*RFE/RL Newsline, 21.08.1998*

## Заклік да „праваслаўнай славянскай маральнасці"

БелаПан 20 жніўня г.г. паведаміў, што Беларуская патрыятычная партыя выступіла з заклікам да грамадзян Беларусі „фарміраваць сваё жыццё і свабодны час на асновах праваслаўнай славянскай маральнасці". Партыя перакананая ў тым, што распаўсюджанасць „заходняга стылю жыцця, тэлерэкламы, незалежнай і свабоднай прэсы ды камп'ютэрных гульняў" стане прычынай нацыянальнай „дэградацыі і слабасці... Агульнае захапленне заходняй культурай вядзе да [псіхічнага] разладу, памылковых і разбуральных паводзін у грамадстве", — напісана ў заклiку. Партыя цікавіцца таксама будучыняй маладога пакалення, якое, паводле БПП, паступова пераўтвараецца ў „музычных фанатаў, рабоў тэлебачання, гакераў і сектантаў".

*RFE/RL Newsline, 21.08.1998*

> Шчырыя спачуванні спадарству
> **Галіне і Яну РАМАШКАМ**
> з прычыны напаткаўшага іх гора
> — смерці свякрухі і маці —
> выказвае рэдакцыйны калектыў „Нівы".

## Уплата старых даўгоў дэмакратыі

Польшча была першай камуністычнай краінай Еўропы, якая ступіла на шлях дэмакратыі і рынкавай эканомікі. Беларусь можа быць апошняй, калі на крок такі ўвогуле вырашыцца. Абедзве краіны спалучае 600 кіламетраў мяжы, якая ў будучым годзе стане ўсходнім рубяжом НАТО, а ў перспектыве некалькіх гадоў праўдападобна і ўсходнім рубяжом Еўрапейскага Саюза. У перакладзе на палітычна-эканамічную практыку абазначае гэта, што Польшча і Беларусь могуць разысціся яшчэ далей, чым гэта назіраецца цяпер. Многія палякі і беларусы ўсё-такі не вераць, што адчужанасць паміж краінамі непазбежная, а яшчэ больш з іх — увогуле не хацела б такога павароту справы.

Польшча не павінна адмяжоўвацца ад Беларусі па трох істотных прычынах. Дзве з іх выказаў польскі міністр замежных спраў Браніслаў Герэмэк, калі тлумачыў, чаму Польшча не далучылася да візавых рэстрыкцый Еўрапейскага Саюза супраць высокіх беларускіх чыноўнікаў, якія былі ўведзены краінамі ЕС пасля дыпламатычнага скандалу ў Мінску.

Па-першае, Герэмэк сказаў, што ў афіцыйных дачыненнях з Мінскам Польшча павінна ўлічваць лёс 420 тыс. палякаў, якія жывуць у межах Беларусі. Пасля абвяшчэння рэспублікай дэкларацыі аб суверэнітэце 27 ліпеня 1990 г. палякі ў Беларусі атрымалі магчымасць весці разнастайную культурную і адукацыйную дзейнасць, скіраваную на развіццё іх этнічнай і культурнай свядомасці. Варшава не скрывае занепакоенасці, што беларускі аўтарытарны лідэр Аляксандр Лукашэнка адпомсціцца, адмяняючы некаторыя прывілеі, якія палякі ў Беларусі атрымалі ў постбээсэсэраўскі перыяд.

Па-другое, Герэмэк, які з'яўляецца старшынёю АБСЕ, падкрэсліў адказнасць Польшчы за захаванне місіі АБСЕ ў Мінску і „дыялогу з беларускім грамадствам". Беларусь знаходзіцца на скрыжаванні галоўных дарожных, чыгуначных і газаправодных шляхоў Еўропы. Значэнне беларускай гаспадаркі для Еўропы невялікае, але сама Беларусь з'яўляецца важным транспартным калідорам у Расію.

Па-трэцяе, беларуская гаспадарка, нягледзячы на тое, што Варшава неахвотна ў гэтым прызнаецца, здаецца быць важнай для самой Польшчы. На схіле 1997 года, пасля ўвядзення Польшчай жорсткіх візавых абмежаванняў для беларусаў і расіянаў, па краіне пракацілася хваля пратэсту дробных прадпрыемцаў. У выніку візавых абмежаванняў памежны гандаль з Беларуссю і Калінінградскай вобласцю, у яго ліку і дробная кантрабанда алкаголем ды цыгарэтамі, рэзка ўпаў, пагражаючы сотням тысяч людзей па ўсёй Польшчы стратай крыніц прыбытку. Каб разрадзіць унутраную напругу, міністр замежных спраў Польшчы мусіў панізіць кошт візы ды скараціць фармальнасці ў яе выдачы.

Магчыма, што гэтыя тры фактары падштурхнулі палітыкаў Польшчы і Еўрапейскага Саюза пераарыентаваць адносіны Польшчы з Беларуссю. Польшча паступова ўзяла на сябе ролю перадатчыка заходніх ідэй дэмакратыі беларускаму грамадству. Некалькі недзяржаўных польскіх арганізацый засяродзіліся на Беларусі з намерам адчыніць яе „закрытае" грамадства на Еўропу. Найбліжэй поспеху ў гэтай справе здаецца быць Цэнтр грамадзянскай адукацыі „Польшча-Беларусь" у Беластоку, адкрыццё якога адбылося ў студзені 1998 г.

У Праграмную раду Цэнтра ўваходзяць вядомыя асобы публічнага жыцця Польшчы, як, прыкладова, ветэраны барацьбы з камунізмам Яцэк Курань, Збігнеў Бужак і Караль Мадзэлеўскі. Управа Цэнтра складаецца з двух палякаў і двух беларусаў з Польшчы — усе яны выводзяцца з маладога пакалення палітыкаў і інтэлектуалаў, палітычны воблік якога ўфармаваўся ў 80-ыя гады, калі „Салідарнасць" змагалася за звяржэнне камуністычнага рэжыму ў Польшчы. Сядзіба арганізацыі знаходзіцца ў Беластоку — цэнтры паўночна-ўсходняга рэгіёна краіны, населенага 150-тысячнай беларускай нацыянальнай меншасцю. Цэнтр грамадзянскай адукацыі ў асноўным фінансуецца Фондам імя Стэфана Баторыя (польскае адгалінаванне Фонду Сораса) і Вестмінстэрскім фондам для дэмакратыі з Вялікабрытаніі.

Старшыня Управы Цэнтра Артур Смулка лічыць, што асноўная ідэя арганізацыі — „памяць пра дапамогу Захаду польскім дэмакратам і антыкамуністам у 80-ыя гады. Цяпер жа надышоў час, каб мы дапамаглі Беларусі і вярнулі дэмакратыі свой стары доўг". Яўген Вапа — адзін з лідэраў беларускай грамадскасці ў Польшчы — арганізуе практычныя мерапрыемствы Цэнтра. У Вапы шырокія веды пра беларускую мову, культуру і менталітэт, а таксама і багатыя асабістыя кантакты з вядучымі беларускімі апазіцыянерамі. „Лукашэнка не вечны. Нам трэба паказваць маладым беларусам што і як у Польшчы адбываецца, каб падрыхтоўваць іх узяць уладу, калі рэжым Лукашэнкі праваліцца", — заяўляе Яўген Вапа.

Сфера дзейнасці Цэнтра ахоплівае сем праектаў, звязаных з мясцовымі самаўрадамі, прэсай, экалогіяй, правамі чалавека, нацыянальнымі меншасцямі і культурай. У якасці замежных партнёраў гэтых праектаў — апазіцыйны Беларускі народны фронт, Хартыя-97, Беларускі кангрэс прафсаюзаў і незалежныя газеты: „Навіны", „Наша ніва", „Пагоня".

Устаноўчая канферэнцыя Цэнтра, якая прайшла 31 студзеня — 2 лютага г.г. пад лозунгам „Дэмакратыя — наша супольная справа" ды згуртавала за адным сталом прадстаўніцтвы беларускіх апазіцыянераў і польскіх палітыкаў, як і можна было прадказаць, выклікала вострую рэакцыю Мінска. Беларускі міністр замежных спраў назваў Цэнтр „падрыўным", накіраваным на дэстабілізацыю сітуацыі ў Беларусі. Паводле Смулкі і Вапы, „гэта толькі пацвердзіла, што зрабілі яны добры пачатак".

**Ян Максімюк**

*RFE/RL Newsline, 18.08.1998*

*(http://www.rferl.org/newsline)*

**Ад рэдакцыі:** „RFE/RL Newsline" — штодзённы бюлетэнь Радыё Вольная Еўропа/ Радыё Свабода на англійскай мове, які прадстаўляе палітычнае і сацыяльна-эканамічнае жыццё ў краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ды былых рэспубліках Савецкага Саюза. Ян Максімюк — супрацоўнік „Нівы" ў 1989-93 гг. — працуе ў „Newsline" як рэгіянальны спецыяліст па Польшчы, Беларусі і Украіне.

# Фэст „Цэрамікі"

У нядзелю 23 жніўня Керамічны завод у Старым Ляўкове, які тут называюць папросту „Цэрамікай", адзначыў трыццацігоддзе прадукцыйнай дзейнасці. З выпадку юбілею на прызаводскім пляцы былі арганізаваны розныя забаўляльныя мерапрыемствы.

З 10-й гадзіны пачаліся спаборніцтвы спартыўнага характару: для дзяцей велагонкі і гульні з мячом, а для дарослых перацягванне каната, дзе спаборнічалі між сабою паасобныя цэхі завода, ды адкрыты турнір пляжнага валейбола.

А 14-й гадзіне пачалася афіцыйная частка, на якую былі запрошаны шматлікія госці і са сталіцы, і з ваяводства, і з павета, і з гміны. Присутнічалі м.інш. паслы ў Сейм РП Вальдэмар Паўлоўскі, Сяргей Плева і Ян Сычэўскі, былы кіраўнік завода Канстанцін Майсеня, тры прадстаўніцы ваяводы, кіраўнік раённай управы, войт і іншыя, па-свойму важныя, асабістасці. Падчас афіцыйнай часткі працаўнікі завода, верныя яму ўсе трыццаць гадоў — а нематылькоўкіх „даматараў" з такім стажам завадскія рахункаводы налічылі трынаццаць, — атрымалі з рук дырэктара **Аляксандра Бандарука** ганаровыя граматы і сувеніры.

Пасля афіцыйнай часткі настала мастацка-конкурсная. Конкурсы мелі развесяляльны характар, бо былі тут, апрача конкурсу ведаў пра завод, конкурс сямейнага будавання муру (узнагародай за перамогу ў ім быў блок будаўнічых цэглаў) і сямейнае спаборніцтва ў спажыванні напояў. У мастацкай частцы выступілі беластоцкі дуэт „Ас", ваўкавыскі ансамбль „Медуніца" ды польская эстрадная зорка Рудзі Шуберт. А пасля гэтага ўсяго была дыскатэка.

Непадалёку эстрады былі пастаўлены стэнды са здымкамі з мінулага завода. На мяне навеялі яны сум прамінання, бо шмат якія там паказаныя людзі адышлі ўжо навекі, а чарговыя сталі ўжо непрацаздольнымі. Ды і сітуацыя на заводзе не такая пампезная, як быў юбілейны фэст. Завод, хаця пастаўляе сваю прадукцыю ў восем ваяводстваў, у тым ліку ў вельмі патрабавальнае варшаўскае, не працуе круглы год на поўную моц. Вось мой колішні аднакласнік Косця Целушэцкі, які апекаваўся згаданым стэндам, мае заключаны тэрміновы дагавор на працу толькі да канца верасня. А пасля — мо на вясну зноў прымуць...

У кераміку нашай краіны ўваходзіць нямецкі капітал, які нясе керамікам многа пытальнікаў; да нашай Усходняй сцяны ён яшчэ не дайшоў. Выпадае мець надзею, чаго і жадаю працоўнаму калектыву „Цэрамікі", што будучыня завода будзе такая ж пышная, як і фэст з Рудзі Шубертам.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Распачалася пабудова

**Пабудова новага школьнага будынка ў Дубічах-Царкоўных пачалася ў чэрвені 1998 года і ідзе поўным махам. Вучні і настаўнікі жывуць ужо новым школьным годам, хаця вучыцца трэба будзе яшчэ ў старых будынках.**



*Фота Славаміра Куліка*

— Зараз умовы вучобы ў нас вельмі цяжкія, залы малыя, абаграваныя кафлянымі печкамі, няма ў сярэдзіне ні туалетаў, ні асобных раздзявальняў, а калідор таксама невялічкі. Паколькі вучоба вядзецца ў двух будынках, вучні не маюць нават умоў, каб боты мяняць, — расказвае пра сваю школу дырэктар Ніна Добаш-Карпюк. — У новым будынку будзе гімнастычная зала, кабінет для прадшкольнага аддзялення і чатыры залы для вучняў, бібліятэка, чытальня, святліца, пакоі дырэктара, настаўнікаў, камп'ютэрны кабінет, склад, раздзявальні і туалеты, усё на месцы. У наступным годзе хочам таксама мадэрнізаваць будынак, у якім зараз вучацца класы I-III і магчыма, што зробім там гімназію, якая паўстане ўжо ў верасні 1999 года.

— Да сёння выдаткавалі на будову недзе 220 тыс. злотых, а каб закончыць будову і мадэрнізаваць адзін будынак трэба будзе яшчэ пады 2 мільёны злотых. Калі будуць сродкі, будову плануем закончыць у верасні 2001 года, — гаворыць войт гміны Дубічы-Царкоўныя Анатоль Паўлоўскі. — Зараз узялі мы крэдыт у доларах з нізкім працэнтам, прадбачаны на грамадскія інвестыцыі па вёсках, а пералічыўшы на залатоўкі, прыблізна 400 тыс. злотых. Самі будзем выдаткоўваць у гэтым годзе 60 тыс. зл., а з Куратарыі асветы ў Беластоку атрымалі толькі 20 тыс. зл. Абяцалі нам фінансавую падтрымку з Ведамства культуры і турызму на гімнастычную залу, але па прычыне паводкі ў заходняй Польшчы дапамога была спынена. Калі была ў нас камісія нацыянальных меншасцей з Яцкам Куранем, мы размаўлялі пра фінансавую дапамогу і, мабыць, атрымаем сродкі з Міністэрства нацыянальнай адукацыі, прызначаныя для школ, якія працуюць сярод нацыянальных меншасцей.

— У Дубічах-Царкоўных будзе вучыцца 97 дзяцей, у тым ліку 10 дашкольнікаў. На 72 асобы з II-VIII класаў толькі 10 асоб не ходзіць на заняткі беларускай мовы, якія вядуць Галіна Трашчотка, Марыя Казімірук і Галіна Бялькевіч. Спадарыня Галіна Трашчотка ўжо два гады вядзе гурток беларускай мовы „Жывое слова", у час якога рыхтуе вучняў да конкурсаў і мерапрыемстваў. Два гады таму нашы вучні занялі III месца на цэнтральных элімінацыях дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова", тэатральная група — II месца ў сцэнічным аглядзе. Вучні ахвотна ходзяць на заняткі беларускай мовы. Малых цікавіць новае, не бывае, каб пазней пакідалі навучанне, — расказвае дырэктар Ніна Добаш-Карпюк. — Аб зменах у праграмах у сувязі з рэформай школьніцтва паінфармуюць нас недзе ў кастрычніку або лістападзе. Плануюць увесці блокавае навучанне, дзе спалучаць прадметы — польскую мову з гісторыяй і ведамі аб грамадстве, матэматыку з фізікай, хіміяй і біялогіяй, пластыку і тэхніку з музыкай, а асобна пакінуць фізічную культуры. У I-III класах плануецца такое навучанне, якое зараз у дашкольнікаў, дзе няма падзелу на ўрокі і настаўнік залежна ад патрэбы бярэ больш матэматыкі, польскай мовы або іншага прадмета, так каб рэалізаваць праграму. У планах рэформа добрая, але як будзе, час пакажа. Калі закончыцца будова школы, у планах ліквідацыя школы ў Старым Корніне. Прадбачаем, што ў падставовай школе і гімназіі будзе каля 150 дзяцей.

**Аляксей Мароз**

# Зноў выбары

[1 ☞ працяг]

арганізацыі, якія прадстаўляюць увесь патэнцыяльны электарат. Разам з СЛД да самаўрадавых выбараў пойдзе не толькі БГКТ і Унія працы, але таксама шырокі лагер праваслаўных. Афіцыйнай кааліцыі аднак праўдападобна не будзе. Праваслаўныя кандыдаты будуць выступаць на спісках СЛД як „незалежныя". У парламенцкіх выбарах праваслаўныя ставілі ў закід Беларускаму саюзу, што пайшоў у кааліцы з Уніяй працы. Цяпер, відаць, нешта адмянілася. Праваслаўныя радныя ў беластоцкім самаўрадзе яшчэ нядаўна таксама былі ў скрытай кааліцыі з нацыянальна-каталіцкай кааліцыяй „Еднасць". Цяпер, як мне здаецца, узнікае даволі натуральны саюз праваслаўных, СЛД і БГКТ, тым больш, што ўсе гэтыя палітычныя суб'екты адклікаюцца да таго самага электарату. Першы крок дзеля аб'яднання левага боку беластоцкай палітычнай сцэны зрабіў Ян Сычэўскі, далучаючыся да СЛД і парываючы стан штучнага раз'яднання. Доўга трымаўся Яўген Чыквін, які меў амбіцыю самастойна праяўляць у палітычным жыцці, ствараў нават з нейкімі ўкраінцамі і расейцамі славянскія саюзы. Праўдападобна Чыквін ужо цяпер быў бы паслом ад СЛД, замест Сычэўскага, калі б раней вырашыў вярнуцца ў рады левага лагера. Сёння прыйдзецца яму задаволіцца функцыяй ваяводскага раднага.

Ці павінны прымаць удзел у выбарах у Беластоку і ваяводстве беларускія некамуністычныя арганізацыі? Калі прымаць, тады ў якой форме? Такія пытанні здаўна блытаюцца ў галовах іх лідэраў. Самастойна можна ісці выключна дзеля дэманстрацыі свае прысутнасці, з поўнай свядомасцю адносна вынікаў галасавання, ведаючы прытым пра характар прапаганды, якая будзе весціся з боку канкурэнцыі. Але асноўная справа, якая перакрэслівае сэнс удзелу беларускіх арганізацый у выбарах, гэта тое, што ў Беластоку няма электарату, зацікаўленага адраджэннем беларускасці ў гэтым горадзе. Выбаршчыкаў поўнасцю задавальняе тое, што ім прапануецца ў выглядзе імпрэзаў арганізаваных праўленнем БГКТ і той формай адметнасці, якую стварае праваслаўнае веравызнанне. Такая рэальнасць.

Можна яшчэ беларускім дзеячам, узорам бэгэкатоўцаў і праваслаўных, далучацца да іншых груповак, але тады ўзнікае пытанне: да каго і дзеля чаго? На Беласточчыне няма ніякага польскага палітычнага лагера, зацікаўленага развіццём беларускасці на гэтай зямлі. Тут дамінавала іншая традыцыя. Тутэйшыя камуністы і нацыяналісты доўгімі гадамі стваралі стан свядомасці „нашага" люду такім, які ім быў выгадны, і які цяпер маем. У мясцовых радах будуць, дарэчы, людзі, якіх, калі ўзнікне такая патрэба, можна паказваць як беларусаў. А ў Сувалках і Ломжы ўсе будуць перакананы, што Падляшскім ваяводствам, так як і раней, кіруюць „ruscy". Маем жа быццам бы на Беласточчыне нават беларускія школы.

**Яўген Мірановіч**

# Канікулы для пакрыўджаных лёсам дзяцей

У першай палове жніўня Праваслаўны асяродак міласэрнасці „Элеас" арганізаваў над вадасховішчам Бахматы каля Дубіч-Царкоўных адпачынак для дзесяці дзетак з разбітых сем'яў і дзіцячых дамоў з Супраслі, Краснага і Беластока. Пакрыўджаныя лёсам дзеці жылі ў прыгожым доме „Бахматаўка", распаложаным над вадаёмам. Духовую апеку над лагерам нёс а. Адам Місіюк, а медыцынскую — лекар мясцовай амбулаторыі доктар Ева Барана. Дзеці прымалі ўдзел у рэлігійных занятках, вучыліся маліцца перад і пасля яды, раніцай і вечарам. Наведвалі яны таксама царкву, удзельнічалі ў багаслужбах, прыступалі да споведзі і прычасця.

Разам з апякункамі з Брацтва праваслаўнай моладзі дзеці прымалі ўдзел у занятках у Гмінным асяродку культуры — перш за ўсё гулялі яны ў камп'ютэрныя гульні, а таксама адпачывалі над вадою. Для іх арганізаваліся шматлікія забавы і конкурсы, напрыклад, танца, спеваў ці малявання. Ездзілі яны таксама і на экскурсію ў Белавежу.

Апекуны звярталі ўвагу на каларыйнасць і разнастайнасць ежы і таму ў меню многа было фруктаў і ласункаў, а смачную страву дзеткам варыла ў кухні мясцовай школы спадарыня Галіна Рудчук. Дзеці выдатна адпачылі ў Дубічах-Царкоўных і выехалі адсюль вельмі задаволеныя.

**Славамір Кулік**

# Гайнаўка прыгажэе

У мінулым годзе і сёлета ў Гайнаўцы палажылі новыя тратуары з ходнікавых пліт ды „польбруку" па вуліцах А. Дзевятоўскага і 3 Мая. Цяпер куды прыемней і бяспечней па іх хадзіць.

У Гайнаўцы — гэта варта адзначыць — многа дрэў і кустарнікаў. Ёсць прыгожы бярозавы парк ды сквер побач гарадской управы і пошты. У горадзе многа стройных дубоў-волатаў. Растуць яны побач вуліц: Беластоцкай, А. Дзевятоўскага, Ю. Пілсудскага, Белавежскай і Лоўчай. Некаторыя з іх з'яўляюцца помнікамі прыроды. Захавалася таксама чародка стройных сосен побач чыгуначнага вакзала. **(гай)**

# Малавядомыя факты

Дзякуючы майму прыяцелю Мікалаю Капчуку меў я магчымасць пазнаёміцца з дакументамі наконт дэмаркацыі польска-савецкай мяжы ў 1944-1947 гадах і нацыянальных праблемаў, якія ўзнікалі пры гэтай нагодзе.

Прыгадаю, што 16 жніўня 1945 года паміж Польшчай і СССР было заключана пагадненне аб дзяржаўнай мяжы. У адпаведнасці з гэтым дакументам для ўстанаўлення і абазначэння граніцы на мясцовасці былі створаны Мешаная польска-савецкая камісія ў Варшаве і шэсць падкамісій, дзве з якіх працавалі на паўночна-ўсходнім адрэзку дзяржаўнай мяжы: № V — у Няміраве і № VI — у Кузніцы. Падкамісія № V займалася ўстанаўленнем граніцы па сушы ад пункта, распаложанага ў 500 метрах на ўсход ад Нямірава, аж да разгалінавання дарог у адлегласці 1 км на паўночны-ўсход ад Крынак. Абазначэннем граніцы ад гэтага месца да граніцы Польшчы з Літвой і былой Усходняй Прусіяй займалася падкамісія № VI. Шырыня вызначанай у Маскве ў 1944 годзе польска-савецкай граніцы ў некаторых месцах даходзіла нават да 20 км.

У справе правядзення гранічнай лініі выказваліся павятовыя рады нарадовыя ў Беластоку, Саколцы, Аўгуставе і Сувалках. Прапанавалі яны перасунуць граніцу на ўсход, пад само Гродна і павесці яе па рэках Ласоснай, Нёмане, Ласянцы і Свіслачы, да вытоку Нарвы. Меркаванні гэтыя беластоцкім ваяводам былі перададзены Міністэрству публічнай адміністрацыі. Ваявода пісаў, што прапанаваныя змены адпавядаюць патрэбам мясцовага насельніцтва. Трэба, аднак, памятаць, што на гэтай тэрыторыі большасць складала беларускае насельніцтва. Польская адміністрацыя, відаць, хацела абараняць інтарэсы польскай нацыянальнай меншасці на этнічна беларускіх землях, прабуючы працягваць такім чынам адвечны паход на ўсход і паланізацыю ды каталіцызацыю гэтай тэрыторыі.

Дэмаркацыя граніцы выклікала таксама перамяшчэнне насельніцтва ў адпаведнасці з дамовай, заключанай паміж Польшчай і Беларуссю 9 жніўня 1944 г. Сядзіба Галоўнага ўпаўнаважанага Беларускай камісіі па справах эвакуацыі знаходзілася ў Беластоку па вуліцы Навагрудскай 1 ды Аградовай 7 і ахоўвалася салдатамі НКВД і УБ.

Перасяленнем займаліся аддзелы ПУР (PUR — Państwowy Urząd Repatriacyjny). У справаздачах беластоцкаму ваяводу гэтыя ўстановы прапанавалі наступныя вырашэнні:

1. поўнасцю адсунуць беларусаў ад дзяржаўнай мяжы, ствараючы 20-кіламетровую зону бяспечнасці, або прымусова перасяліць іх у СССР;

2. насяліць пагранічную тэрыторыю палякамі.

Былі таксама прапановы індывідуальна перасяліць беларусаў на заходнія (вернутыя) землі. Па прычыне антыпольскасці пераселены мелі быць жыхары Юраўлянаў, Лапічаў, Грыбоўшчыны, Уснара-Гурнага, Бабінкі, Баброўкі, Хлевішчаў, Такароў і Вычулак.

Адкуль бралася антыпольскасць мясцовых беларусаў? Перш за ўсё гэта быў вынік антыбеларускай палітыкі даваеннай Польшчы. У тадышніх умовах беларусы не дапускаліся да работы ў адміністрацыі, войску ці паліцыі, ліквідавалася беларускае школьніцтва і культурныя ўстановы, закрываліся рэдакцыі беларускіх газет, вялося асадніцтва польскіх каланістаў і легіянераў на этнічных беларускіх землях, рабіліся перашкоды ў навучанні праваслаўнай рэлігіі.

З дакументацыі сакольскага ПУР вынікае, што беларусы былі прымушаны выязджаць у БССР. Раніцай на дзвярах сваіх дамоў знаходзілі яны лістоўкі з пагрозамі і заклікам пакінуць Польшчу. А ў гэтых вёсках большасць складалі беларусы (напрыклад, Уснар-Гурны, Юраўляны і Лапічы — 100%, Грыбоўшчына — 60%).

**Канстанцін Масальскі**

# Будаваць масты, ліквідаваць бар'еры

***Народы — гэта перажытак, прысуджаны на адміранне. Нацыянальныя адасобленасці захаваюцца толькі ў фальклорнай форме.* Знаёмае? Так, але здавалася, адышло ў нябыт разам з перадавым грамадска-палітычным ладам. А тым часам гэтыя словы пачуў я якіх два тыдні таму ад маладога немца з Берліна, і то з тае часткі горада, якая яшчэ нядаўна была Заходнім Берлінам.**

Было гэта ў глухой мазурскай вёсцы Жывы, каля возера з такой самай назвай, дзесьці між Гіжыцкам і Венгажэвам. Міжнародная маладзёжная кампанія прыехала туды на грамадска-гістарычны семінар „Бар'еры, масты, надзеі", арганізаваны Культурнай супольнасцю „Барусія" з Ольштына. У семінары прымалі ўдзел студэнты з Польшчы, Нямеччыны, Літвы і Калінінградскай вобласці Расеі. Супольна пазнавалі складаную гісторыю і нялёгкую сучаснасць Мазураў, дыскутавалі пра еўрапейскую інтэграцыю і будучыню аб'яднанай Еўропы, вучыліся пераадольваць стэрэатыпнае бачанне адным аднаго і талерантнасці. Адным з разгляданых пытанняў былі нацыянальныя меншасці. Якая карысць можа выплываць з самога факта існавання меншасцей, а якую тояць яны ў сабе пагрозу?

Мне давялося выступаць там у ролі жывога беларуса — запярэчання абажанай маладым левым немцам тэорыі аб аб'ектыўным і незваротным зніканні нацыяў. На шчасце, далёка не ўсе ўдзельнікі семінара лічылі народы адсталасцю і наша дыскусія не звялася да ўзаемнага пераконвання, выжывуць яны, ці прападуць як нікому непатрэбны рэлікт мінулага. Гаварылі мы пра бягучыя патрэбы і цяжкасці ў жыцці меншасцей. Прававу ю сітуацыю меншасцей накрэсліла Данута Берлінская з Аполя, а я прадставіў наша жыццё-быццё на Беласточчыне.

„Каб быць меншасцю, патрэбны характар", — напісаў Сакрат Яновіч у альманаху „Барусія". Маладыя ўдзельнікі семінара маглі праверыць праўдзівасць гэтага сцвярджэння не толькі ў ходзе дыскусіі, але таксама наяўна, адведваючы ў Гурове-Ілавецкім украінцаў. А ў падсумаванні гэтай тэмы было сказана, што меншасці могуць быць у сённяшнім свеце і шанцам, і адначасна пагрозай. Шанцам таму, што, выхаваныя ў дзвюх культурах, з'яўляюцца натуральным матэрыялам для пабудовы мастоў, паразумення між суседнімі народамі. А якую пагрозу сабой уяўляюць, відаць у крайняй форме ў Югаславіі, Паўночнай Ірландыі ці Краіне баскаў у Іспаніі. „Найчасцей, аднак, пазіцыя, якую займае меншасць, — пераконвала Данута Берлінская, — залежыць ад большасці. Калі большасць неталерантная, прыніжае меншасць, спіхае яе на перыферыю грамадскага жыцця, гэта родзіць бунт слабейшага і вядзе да канфліктаў".

Такія сустрэчы, як сёлетняя ў Жывах, маюць менавіта прадухіляць канфлікты, будаваць паразуменні. Культурная супольнасць „Барусія" пачала ладзіць іх сем гадоў таму. Спачатку як польска-нямецкія, бо гэтыя народы наймацней упісаліся ў гісторыю Ольштына,Варміі і Мазураў. Паступова падключаліся суседзі: літоўцы, расейцы. У міжнародных спатканнях прымаюць удзел таксама беларусы. „Барусія" праз сетку „Міжнародная школа" падтрымлівае сувязі з Гуманітарна-адукацыйным цэнтрам і ліцэем у Менску. Навучэнцы гэтай установы былі гасцямі падобных сустрэч.

Апрача такіх летнікаў, навуковых семінараў ды розных міжнародных дыскусійных сустрэч „Барусія" вядзе цікавую выдавецкую дзейнасць. На першым месцы тут трэба адзначыць аднайменны культурна-гістарычна-літаратурны альманах. А ў ім змешчана інфармацыя пра ўжо гатовыя кніжкі і выдавецкія планы „Барусіі".

**Мікола Ваўранюк**

# Чэшскія гадавіны

Пры канцы жніўня прэса шырока распісалася пра трыццатую гадавіну падаўлення войскамі Варшаўскага дагавора пражскай вясны. Савецкія, польскія, усходненямецкія, балгарскія і венгерскія танкі і амаль мільён салдат з г.зв. братніх армій затапталі чэшскае імкненне да свабоды. Крамлёўскія сатрапы святкавалі апошнюю перамогу, а чэхі махнулі рукою на свой рамантызм і вырашылі пачакаць пакуль камунізм і Варшаўскі дагавор самі разваляцца. Доўга чакаць ім не прыйшлося.

У гэтым годзе чэхі адзначаюць яшчэ адну кашмарную гадавіну ў сваёй гісторыі, калі іх суседзі — гітлераўская Нямеччына і Польшча — адарвалі па кавалку іхняй дзяржавы. Не пішуць пра гэта ні беластоцкія, ні варшаўскія газеты, але II сусветная вайна пачалася фактычна ў верасні 1938 года, калі Чэхаславакія патраціла сваю незалежнасць. Дзяржава гэтая мела падпісаныя палітычныя і вайсковыя дагаворы з Вялікабрытаніяй і Францыяй, якія гарантавалі ёй дапамогу ў выпадку агрэсіі з боку іншай дзяржавы. Саюзнікі, аднак, здрадзілі. У крытычны момант, калі Нямеччына і Польшча рыхтавалі свае войскі да вайны з Чэхаславацкай Рэспублікай, англійскія і французскія палітыкі запатрабавалі ад сваіх саюзнікаў капітуляцыі, таму што не хацелася ім выконваць раней падпісаных дамоўленасцей. 29 верасня 1938 года ў Мюнхене прэм'ер-міністры Англіі, Францыі, Італіі і Гітлер падпісалі дагавор, які прымушаў чэхаў аддаць немцам і палякам тэрыторыі, якія яны патрабавалі. Чэхі патрацілі трэцюю частку сваёй тэрыторыі. Палякі атрымалі няшмат — толькі Цешынскі Шлёнск, але былі сярод першых, якія непасрэдна ўзялі ўдзел у вырашэнні суседскіх праблем дарогай гвалту і шантажу. Год пазней прыйшлося ім самім дасведчыць падобнай палітыкі з боку суседзяў.

Навейшая гісторыя чэхаў вучыць, што народ можа без вялікіх страт ператрываць кожную акупацыю, абы толькі хацеў астацца сабою. Чэхі падчас шасцігадовай нямецкай акупацыі патрацілі толькі пару соцен чалавек. Беларусы на працягу трох гадоў патрацілі два мільёны сваіх грамадзян. Чэхі аднак нікому не служылі, думалі толькі пра сваё існаванне. Беларусы вымушаны былі змагацца за „советскую родину, за Сталина, за матушку Россию". Прапалі ўсе акупанты з чэшскай зямлі, асталіся толькі чэхі і (!) уся іхняя культурная спадчына. На вуліцах чэшскай сталіцы і сёння ляжаць камяні, якія памятаюць трынаццатае-пятнаццатае стагоддзе.

**Яўген Мірановіч**

# Мая вёска

Вёска Бялкі, што ў Гміне Нарва пры санацыі налічвала 93 гаспадароў. Зямельных угоддзяў тут было 940 гектараў, якія поўнасцю апрацоўваліся сялянамі. Не было ніводнае цераспалосіцы, якая б ляжала аблогам, а людзі за мяжу часта сварыліся і біліся. Памятаю, як родныя браты дзерліся паміж сабою за пядзю зямлі. Падчас акупацыі на вясковыя забавы хадзілі савецкія партызаны. Яны зналіся з нашымі людзьмі, адны другіх не баяліся. Калі немцы прыязджалі ў вёску, партызаны аб усім ведалі. Яны прабывалі ў нашым лесе і мелі сваіх сувязных з жыхароў нашай вёскі.

Пасля вызвалення ў 1944 годзе пачалася перамена і ў нас. Падчас так званай рэпатрыяцыі 19 сем'яў выехала ў Савецкі Саюз, але адтуль ніхто ў нашай вёсцы не пасяліўся. 17 сем'яў купілі пляцы ў горадзе Беластоку і там пабудавалі сабе жылыя дамы і туды перасяліліся. Дзеці астатніх гаспадароў таксама купілі пляцы ў Беластоку, пабудаваліся і там жывуць.

Цяпер наша вёска пастарэла. Няма моладзі, ніхто не ходзіць на забавы. Асталося дзесяць старых кавалераў. Не могуць яны знайсці сабе жонак, хоць і некаторыя вельмі добра даглядаюць свае гаспадаркі, маюць машыны ды трактары.

Пры камуне зямлю абрабляў таксама калгас у Трасцянцы. Цяпер і ён прападае, а зямля ляжыць аблогам, на якім расце толькі пустазелле.

Хто адышоў у вечнасць, хто аддаў зямлю дзяржаве. Астатнія перапісалі грунты на сваіх дзяцей, якія жывуць у гарадах і не ведаюць межаў сваіх палеткаў. Бацькі-пенсіянеры ад гэтага „памаладзелі", „падужэлі" і далей апрацоўваюць перададзеную дзецям зямлю. Пры ПНР пабудавалі ў нас масты, гравейныя дарогі, праклалі вуліцу, толькі няма каму іх рамантаваць. Пабудавалі мы грамадскім чынам краму і малачарню. Цяпер краму прадалі за 1000 злотых і далей стаіць яна пустая. Малачарню перадалі самаўраду ў Нарве. У ёй змяшчаецца добраахвотная пажарная каманда і адбываюцца вясковыя сходы.

Жыхары вёскі старэюць, не жывуць ужо так дружна як калісь. Некаторыя выхадцы, калі пайшлі на пенсію, вяртаюцца з Беластока, бяруць у арэнду зямлю і гаспадараць.

**Мікалай Лук'янюк**

# Літаратурная старонка (464)

Мікола Сцепаненка

## Знаёмства

*(навела)*

Хлопец пацягнуў на сябе шкляныя, у дубовым пераплёце дзверы і ўвайшоў у кавярню. Праваруч па ходу сядзеў швейцар і гартаў газету. На хлопцава прывітанне швейцар кіўнуй галавой, паправіў крысо бастонавага касцюма, зірнуў на чырвоную папку ў руках хлопца і ўтаропіўся ў газету.

Невялічкая зала кавярні была ледзь не пустая. Хлопец узяў каву і, прыціскаючы адной рукой чырвоную папку да грудзей, другой асцярожна несучы філіжанку, апынуўся каля першага бліжэйшага стала. За сталом, насупраць сядзела дзяўчына і чытала часопіс, а пры з'яўленні юнака прыўзняла галаву, акуратным жэстам падбіла доўгія русыя валасы і нечакана ўсміхнулася. Хлопец крыху разгубіўся, і пасля невялікай паўзы ціха вымавіў:

— Добры вечар...

— Добры, — не зводзячы з хлопца вачэй адказала яна.

Твар дзяўчыны падаўся хлопцу знаёмым, але як узгадаць, дзе ён мог яе бачыць, так і не здолеў.

— Даруйце, калі ласка, — дзяўчына загарнула часопіс і паглядзела на хлопца.

— Здаецца, што я вас недзе бачыў? — вымавіў ён, спрабуючы падтрымаць размову. Але тут падлавіў, што дзяўчына, як быццам засцярожана п'ючы каву, пазірае то на вокладку часопіса, то на яго. Часопіс свежы, да таго ж вядомы, з выявай юнака ў чорных акулярах. Хлопец крыва ўсміхнуўся і адвёў ад вокладкі вочы.

— Не ведаю як вы мяне, але я вас пазнала, — у добра пастаўленым голасе дзяўчыны адчувалася прыязь і павага. — Вы, Максім?..

На момант усё аблічча хлопца паказвала здзіўленне, ён збаяўся нешта сказаць, але з вуснаў дзяўчыны, тонка падмаляваных касметычным алоўкам, вырваліся словы:

— Паверце, наколькі мне даводзілася бачыць вас на сцэне, а потым яшчэ чытаць тэатральныя рэцэнзіі, то я магу толькі...

— Ну што вы, — запярэчыў хлопец і пачырванеў.

— Я вам шчыра прызнаюся... — працягвала дзяўчына.

— Дзякуй, дзякуй, але хопіць гэтага! — хлопец пасур'ёзнеў, твар яго зрабіўся нават змрочны, пэўна, ён штосьці напружана абдумваў. І раптам спытаў:

— Вы — мастачка?

— У якім сэнсе... — разгубілася нечаканым пытаннем дзяўчына. — Усе мы пасля інстытута вольныя мастачкі, але сцэна для мяне — гэта жыццё, выбачайце за такую трывіяльнасць. На жаль, я цяпер беспрацоўная, абрыдла вандраваць па калгасах. Час ідзе, хочацца нечага сапраўднага, разумееце самі...

— Чаму ж не зразумець. Пры такім заняпадзе нашых тэатраў знайсці добрае месца, ды яшчэ маладой актрысе — вельмі складана...

Хлопец са спачуваннем разважаў далей, а тое, што дзяўчына ўважліва слухала яго і хітала галавою, надавала яму большай упэўненасці.

— Тым не менш, я змагу вам дапамагчы, — закончыў свае развагі хлопец, расшпіліў сваю чырвоную папку і неяк вельмі хутка, рэзкім рухам, падсунуў дзяўчыне белую картку візітоўкі. Дзяўчына падзякавала.

— Тэлефануйце... Але ж...

— Ліка, мяне можна проста Ліка, здаецца мы з вамі прыкладна аднолькавага ўзросту. І давайце на ты?!

— Добра, — паціснуў плячыма хлопец, прыглядаючыся да дзяўчыны. А пакольні тая і не думала сыходзіць, устаў і пайшоў да стойкі. Колькі хвілін шаптаўся з барменам, і вось у іх на стале з'явілася фірменная настойка ў паўлітровай шарападобнай колбе.

З кавярні яны выйшлі апошнімі. Хлопец запаліў цыгарэту і паглядзеў на паружавелы, задаволены твар дзяўчыны. Ліка падхапіла яго пад руку і яны моўчкі пайшлі па ціхай, цьмяна асветленай вуліцы.

* * *

У кватэры стаяў мяккі пах парфумы. Хлопец сядзеў у фатэлі-гойдалцы, злёгку пакалыхваўся і аглядаў пакой. Старыя тэатральныя плакаты, акварэльныя краявіды ў драўляных рамачках, дзве стракатыя маскі над канапай. Канапа была досыць шырокая.

Пачуліся крокі і шоргат тканіны. Ліка, у блакітным халаце, што падкрэсліваў яе фігуру, унесла на вышытаваным сподзе бутэльку віна і крышталёвыя келіхі...

* * *

Хутка хлопец адчуў, што агульныя фразы пра тэатр змушаюць трымацца іх на адлегласці. Абменьвацца гэткімі фразамі не было ніякага жадання.

— Можа, патаньчым? — прапанаваў ён.

Ліка лёгкім, крышку завучаным жэстам падала яму сваю руку. Музыка была ціхай, у павольных рытмах.

Хлопец, як і трэба для танца, ласкава абняў партнёрку, і нечкана пацалаваў яе. Нейкі момант ён чакаў, што дзяўчына ці адштурхне яго, ці іншым чынам запратэстуе, але яна моцна ахапіла яго шыю, прыціснулася да яго. Ён прыхінуў яе да сябе, а калі адчуў цеплыню яе цела, дык зразумеў, што сёння яна належыць яму. Ён прыўзняў яе над падлогай — якая лёгкая! — і накіраваўся пад замацаваныя на сцяне маскі.

* * *

Хлопец прачнуўся ад скрыгату камвалынкі. Дзверы ў гатавальню былі прачыненыя. Жмурачыся ад яркага святла — сонца залівала пакой — хлопец узняўся, пасядзеў крыху на ложку, адчуваючы млявасць па ўсім целе, але ўстаў і паглядзеў у акно. Убачыў там шэры, абдзёрты будан аўтобуснага прыпынку, які чамусьці доўга трымаў ягоны позірк.

— Максім?! — ціха і ласкава паклікала гаспадыня з гатавальні. Але хлопец не выйшаў са здранцвення.

— Снеданне зроблена, Максім...

— Дзякуй... Дастаткова кавы, і шклянкі халоднай вады... — нарэшце адгукнуўся хлопец. Ён апрануўся і панура пайшоў у ванны пакой.

Каву пілі баючыся сустрэцца позіркамі. На развітанне Ліка падала яму руку і прашаптала:

— Да сустрэчы, я абавязкова патэлефаную.

— Буду чакаць, — хлопец паціснуў дзявочую руку, ледзь дакрануўся вуснамі яе шчакі і пайшоў з кватэры.

З першага ж таксафона ён затэлефанаваў. Не задумваючыся набраў нумар, пачакаў хвіліну і сказаў у трубку:

— Алё?! Максім, гэта я, Стась. Выслухай, калі ласка. Учора я ўліп у гісторыю...

— Што здарылася? — пачуўся трывожны голас. — Ты думаеш, што калі я табе брат, дык павінен кожны раз...

— Супакойся, Максім, выслухай спачатку. Учора я пазнаёміўся з актрыскай...

— Ну і што?

— Не перабівай... Пазнаёміўся з цікавай акторкай, яна пераблытала мяне з табою, і мне давялося выконваць тваю ролю...

— Ты быў з ёю ўночы?

— Быў. Але справа ў тым, што я пакінуў ёй тваю візітоўку з абяцаннем уладкаваць у тэатр.

— Ты, брат, вар'ят!

— Але ты можаш адмовіць, ці з'ехаць у камандзіроўку, ці... Каб толькі болей часу прайшло...

— Вось жа ж, чорт бы цябе забраў, урадзіўся. Ведаеш жа, што не твой гонар ратаваць буду, а свой. Я то неяк выкручуся, але ў наступны раз выдавай сябе за Рамана Палянскага...

— Я б з задавальненнем, але я падобны да цябе!

У трубцы пачуліся кароткія гудкі.

### * * *

Я вучуся цябе... вучуся...
як кветка дзікага паху
і зменлівай палітры
цвісці для цябе
вучуся...
з твайго акна
як з шклянкі тонкаствольнай
вузкай як вежа
піць віно белае
кобальтавае віно
піць
з зоркамі што плывуць
па дне празрыстым

я вучуся
і толькі вочы становяцца вялікімі
хіба трохі серабрыстымі
нібыта абыякавымі
можа ціха прывабнымі

вучуся... цябе...
павольна пяшчотна

ды дыханне хутчэйшае
а святло праз яго плывучае
чыстае
лагоднае
і шчаслівае
сэрцы нашы неспакойныя
бурай мучаныя
у пурпуры стаяць
быццам парусы крылатыя
аблітыя прасторай таямніц

павольна
я вучуся...
вучуся цябе
павольна і дзіка

Івона Марціновіч

### * * *

ізноў вярнулася
да канкрэтаў

яна купіць сабе
ўрэшце
прыгожы плашч
ён вернецца з падарожжа
са спаўненнем абяцанага
вяртання

а я вярнулася
да канкрэтаў
і зноў шалёна веру
што кахаю бязмежжа

Марыля Базылюк

### Так блізка

Ой, як ціха ты гаворыш,
нічога не чую.
Помню толькі твае вочы
і цябе, чужую.
Помню толькі твае брывы,
чорныя як сажа.
Дзе ж цябе цяпер шукаці?
Можа, хто падкажа?
Смутак голас мой люляе,
рвецца ў адзіноце.
Пасівеў я, усё ж чакаю,
як гладыш на плоце.
Ці жыццё твае ўдалося,
хай ацэняць людзі.
Адазвіся хоць разочак,
разам, можа, будзем?..

Уладзімір Саўчук

### Дасяпванне

Спелае яблыка
падае, як кот —
на чатыры лапы.
Спелая хмара
падае, як саранча —
з гоманам сумным.
Дзяўчына спелая,
як матыль —
пылок збірае
з тычынак кветкі.

Барыс Руско

### * * *

Памяць згартае
выхадныя дні
ў бліскучы-бліскучы букет.
Памяць згартае,
шчэрыць зубы свет
з недарэчнай,
дзіцячай гульні.

Міхась Андрасюк

### * * *

Шматслоўе забівае.
Паэзію.
І прозу таксама.
Як і людзей,
пачуцці, жэсты, абяцанні.

Надзею забівае
апошняй.
Яна хапаецца за слова,
як тапелец за брытву.

Міра Лукша

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Прывітанне ў школьным годзе!

Пачаўся новы навучальны год. Гарачыя ці дажджлівыя ўспаміны з канікул стануць тэмай першых дзён у школе і шматлікіх урокаў. Пра падарожжы (экзатычныя і не толькі), вандроўкі, здарэнні вартыя ўвагі мы пісалі на працягу цэлых канікул. У большасці аўтарамі рэпартажаў былі добра вядомыя ўжо карэспандэнты „Зоркі".

Сёлетнія канікулы спрыялі арганізацыі ўсялякіх мерапрыемстваў. Нядаўна, напрыканцы жніўня, адбыліся XIV Сустрэчы „Зоркі", прысвечаныя фельетону (пра Сустрэчы напішам у наступным нумары). Трэба спадзявацца, што веды і вопыт маладых журналістаў адлюструюцца на нашых старонках і будуць радаваць усіх чытачоў.

Разам з пачаткам школьнага года пашыраецца круг падпісчыкаў „Зоркі". Для іх мы падрыхтавалі шматлікія конкурсы (літаратурныя, гістарычныя, краязнаўчыя, крыжаванкі, фотазагадкі). Будзем традыцыйна наведваць школы. Зразумела, у першую чаргу завітаем да нашых чытачоў. У далейшым будзем падтрымоўваць літаратурныя і публіцыстычныя спробы вучняў. Нашых карэспандэнтаў чакаюць чарговыя Сустрэчы „Зоркі". Усіх, хто не чытаў „Зоркі" ў час канікул горача намаўляю пераглянуць летнія нумары ды падпісацца на нашу газету. Напэўна не пашкадуеце!

**Зорка**



*Пачалася школа.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Польска-беларуская крыжаванка № 36

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы з наклееным кантрольным талонам на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 32:** Дукат, гарбата, гурт, пажар, натура. Ураган, ружа, брат, тэатр, градка.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Echo | | Etnograf | | Poruszenie | ▼ | Jan / Jad ▶ | ▼ | | Artykuły |
| Festyn | ▼ | Ekran ▶ / Sad | ▼ | | | | | As | ▼ |
| ▶ | | ▼ | | | | Wieprz | Ar | ▶ ▼ | |
| Chan ▶ / Linijka | | | | Ogon | ▶ | ▼ | ▼ | | |
| ▶ ▼ | | | | | Jad | ▶ | | Oda | |
| | Rękaw | | | | Park | ▶ | | | |
| ▶ | | | | Jar | ▶ | | | | |
| | Cypr | | | Nur | ▶ | | | | |
| | Afryka | ▶ | | | | | | | |

## Вершы Віктара Шведа

### Не скупы на чарвякі

— Ты нявеtлівы надта сынок, —  
Абураецца на Янку матка. —  
Ты праз скупасць маленькі кусок  
Свайму брацiку даў шакаладкі.

Нават курка найбольшы чарвяк  
Нясе заўжды сваім куранятам.  
— Каб я меў чарвякі дык аднак  
Той найбольшы б аддаў  
свайму брату.

### Чаму едуць на вярблюдах?

— Паглыбляць няспынна веды  
Кожны з нас павінен.  
Чаму на вярблюдах едуць  
Людзі праз пустыні?

Адказаў Ясь свайму пану:  
— Гэта ж не дзівота!  
Каб пясочку нечакана  
Не набралі ў боты.

# Бельскі фэст ёсць the best

9 жніўня ў Бельскім амфітэатры адбыліся арганізаваныя ўжо трэці раз „Спасаўскія запусты". Я мела нагоду, як і ў мінулым годзе, выступаць на плянтах супольна з сябрамі з „Антракту", які дзейнічае ў БДК. Сёлета наш гурток падрыхтаваў „Жніўную сцэнку". У час выступлення мы мелі не менш атракцыёнаў як у мінулым годзе, калі як парасяты валяліся мы па сцэне. Сёлетаншнім запустам, на жаль, надвор'е не спрыяла. З увагі на тое, што дзьмуў моцны вецер, нам усё павыварочвалася на сцэне. Вецер аднак у пэўным сэнсе нам спрыяў. Публіка мела пацеху, калі мы кіруючыся прыстойнымі думкамі курчом трымаліся нашых спадніц. Апрача сарамлівых дзяўчынак з БДК выступілі і іншыя індывідуальнасці. Для мяне асабліва спадабаліся выступленні Алі Дубэц ды Віктара Шалкевіча з сябрамі.

Спадарыня Дубэц мае арыгінальны голас, яна добра вядомая ўсім паклоннікам беларускай песні. Таксама захапіў мяне Віктар Шалкевіч, які выступіў з Анатолем Кандыбам і Віктарам Грышуком, якіх я ўжо даўно хацела пабачыць жыўём. Апрача маіх улюбёнцаў выступілі калектывы „Рэчанька" з Козлік, „Каласкі" з Беластока, „Дзявочыя ноткі" з Бельска-Падляшскага, хор Гайнаўскага дома культуры, гурты „Лідэр" і „Ас". Па прычыне надвор'я прыйшло менш публікі як у мінулым годзе. Сярод слухачоў знайшліся маруды, менавіта „бабушэнцыя", ля якой я аглядала фэст. „Na bielskiej scenie jak w mięsnym za komuny", — сказала яна. Не ведаю толькі, ці бабка, гаворачы гэта, мела на думцы колькасць выступленняў, ці можа іх якасць. (Яшчэ ніхто не параўнаў мяне з каўбасой). Былі і іншыя выказванні на гэтую тэму. Паводле бельскіх ліцэістаў сёлетні фэст быў the best.

**Жанэта Роля, VIII клас ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

Талон „Зоркі" № 36 06.09.1998

Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага

# Служка, вылезь з-пад лужка!

Паны гуляюць у карты: у „воза", у „курыцу", у „дурня", але ім дужа назаляюць мухі. Абселі ўсю стол, сцены, пачалі падбірацца нават да лысіны пана Заблоцкага.

— Гэта самае, — задуменна кажа пан Кубліцкі, — трэба наняць служку, каб мух адганяла.

— Яшчэ каб паліўку варыла ды чыгун мыла, — дадае пан Заблоцкі. Сказаць лёгка. А дзе яе знайсці, тую служку? Выбраліся паны з хаты, пайшлі полем, лугам... Бачаць — пасвіць карову дзеўка Дрыпа — задрыпана ззаду світа. Бярозавым дубцом ад каровы авадnёў адганяе; як шасне — з дзесятак адразу заб'е.

— От сапраўдная дзеўка, — хваліць пан Заблоцкі, — глядзі, як па авадnях смаліць.

— Здаровая будзь, красуня, — звяртаецца да дзеўкі пан Кубліцкі. — Хадзі да нас у служкі. Табе ў нас будзе добра. Мы дазволім табе ўзяць з сабой карову ды даіць для нас малако.

— А што? І пайду, — кажа дзеўка Дрыпа. — Адно каб пасля не шкадавалі. Бо ў мяне ў галаве, ведаеце, фантазіі розныя, лятункі...

— Якія яшчэ лятункі? — рагочуць паны.

— Якія, якія... Усялякія. От, як стральне што ў галаў, дык усё раблю па-свойму. Натура такая.

— Натура ў ёй... — бурчыць пан Заблоцкі. — У нас таксама натура. Паглядзім, хто з нас натурысцей.

Служыць дзеўка Дрыпа ў паноў, і спачатку ўсё ідзе як мае быць. Паны рэжуцца ў карты, дзеўка Дрыпа непадалёк карову пасвіць. Калі-нікалі паны згадаюць, што ў іх ёсць служка, пакладуць карты дый гукнуць у вакенца:

— Служка! Выдзь з-пад лужка!

— Чаго вам? — адгукнецца дзеўка Дрыпа.

— Падай панам лапці.

Дзеўка Дрыпа прынясе лапці, паны абуюцца ды выправяцца на шпацыр. А ўвечары п'юць сырадой ад Дрыпінай каровы.

Але аднаго разу паны гукнулі: „Служка, выдзь з-пад лужка!" — а служкі няма. Дзе ж яна? А ў лес пайшла і карову з сабой пагнала. Такая ёй фантазія ў галаў стрэліла. А ў хаце бруд, смецце, мухі аджылі — лётаюць, гудуць над вухам. Паны лаюцца.

Надвячоркам дзеўка Дрыпа вяртаецца з лесу, прыносіць кош грыбоў. Паны спадылба на яе зіркаюць, але Дрыпе хоць бы што. Яна ставіць на агонь чыгун і пачынае варыць грыбную паліўку. Паны цярпліва чакаюць вячэры.

Але ў хаце пачынае тварыцца якоесь дзіва: паліўка бурапеніць, пара шугае пад столь, а са столі пачынаюць падаць непрытомныя мухі. Паны дзівяцца, круцяць насамі, што за праява такая, усе мухі павыдыхалі. Нядаўна аж паветра звінела, а цяпер нейк ціха стала, самотна. Нарэшце пан Кубліцкі нясмела пытаецца:

— Мо гэта ад грыбоў мухі гэтак самлелі?

— Чаго ім млець? — пакрыўдзілася дзеўка Дрыпа. — Грыбы добрыя. Галоўнае, прыгожыя. Чырвоненькія такія, у белы гарошак.

Пан Кубліцкі робіцца белы, што папера. Пан Заблоцкі б'е нагою ў чыгун, і паліўка выплюхваецца долу.

— Дык ты што гэта, бледная паганка, шляхту надумалася атруціць?! Мухаморамі частуеш?!

— А што мухаморы, — адказвае дзеўка Дрыпа, — не грыбы хіба? Лось еў, сама бачыла. А шляхта і пагатоў з'есць, халера ёй не зробіцца.

Тут паны і самлелі. А трохі ачомаўшыся, далі дзеўцы іншае заданне:

— Ты, галубка, болей у лес не хадзі. Мы зараз самі ў лес пойдзем, на прагулянку. Ты вось што: прыбяры добранька ў хаце, падлогу памый, каб тутака ўсё бліпчэла. Глядзі, вады не шкадуй.

Не варта было панам гэтак казаць. Бо дзеўка Дрыпа вады не шкадавала. Што ёй? Дзеўка дзябёлая — цягне і цягне вёдрамі са студні. Гэтак шчыруе, проста спыніцца не можа. Вяртаюцца паны з прагулянкі й бачаць: вакол хаты цэлая сажалка ўтварылася. Пасярэдзіне сажалкі тырчыць з вады комін, на коміне сядзіць дзеўка Дрыпа з дзеркачом у руках, нагамі боўтае. Адпачывае, добра нарабіўшыся. У сажалцы качкі плаваюць, жабы крэкчуць.

— Плывіце сюды, — махае ім Дрыпа. — Падзівіцеся, якая вакол чысціня.

Але паны ўжо паваліліся на зямлю, нібы два снапы.

— От жа, далікатныя якія, — кажа дзеўка Дрыпа. — Ізноў не ўладзіла. Панове, панове, ды падымайцеся вы хутчэй! Што вы ўжо гэтак зажурыліся? Знайшлі бяду. От, пачакайце крыху: я налаўлю ў сажалцы рыбы, звару юшку, пасля дзякаваць будзеце.

**Пятро Васючэнка**

З маіх падарожжаў

# Галубы на пляцы Святога Марка



Пляц Святога Марка з'яўляецца гістарычным цэнтрам Венецыі. Яго лічаць не толькі адным з найпрыгажэйшых у Італіі, але і на цэлым свеце. Архітэктура пляца з яго мармуровымі палацамі спалучае элементы фантазіі і рэчаіснасці.

Пляц мае форму прадаўгаватай трапецыі, акружанай найбольш рэпрэзентатыўнымі будоўлямі даўнейшай Рэспублікі. Кожная з іх выконвала калісьці важную дзяржаўную функцыю, а ўсе разам яны былі сімвалам рэлігійнага, палітычнага і грамадскага адзінства: сабор Св. Марка з візантыйскімі купаламі, Палац дожаў (сядзіба ўрада), Пракурацыі (сядзіба высокіх дзяржаўных улад), Бібліятэка Марцыяна (асяродак навукі з багатым зборам кніг і рукапісаў), Манетны двор (выконваў эканамічныя і гандлёвыя функцыі), элеватары (у іх змяшчаліся запасы збожжа на выпадак голаду), якія былі разбураны ў XIX ст. Званіца вызначала рытм гарадскога жыцця тонам сваіх званоў, а дзве гранітныя калоны на беразе выконвалі сімвалічную функцыю вартаўнікоў горада.

Нягледзячы на розніцу стыляў асобных будоўляў, усё разам стварае дасканалую гармонію. Нездарма Напалеон назваў пляц Святога Марка „найпрыгажэйшым салонам свету".

У XIII ст. пляц быў вымашчаны цэглай у прыгожыя ўзоры. Нездарма тут быў цэнтр венецыянскага жыцця амаль ад пачатку існавання горада. Тут адбываліся важнейшыя палітычныя і рэлігійныя падзеі. Пляц стаў арэнай дзяржаўных, касцельных і народных урачыстасцей. Тут людзі пратэставалі супраць дэспатычных урадаў, але тут жа адбываўся шматмесячны венецыянскі карнавал, розныя турніры і народныя фэсты.

На пляцы Святога Марка ёсць крамы з мастацкімі вырабамі і галерэі. У славутых кавярнях сустракаюцца вядомыя мастакі, пісьменнікі, акцёры. Часамі на пляцы адбываюцца канцэрты — акустыка тут амаль такая, як у опернай зале.

Не так даўно на пляцы Святога Марка, у галерэі дэль Кавэліна, была наладжана выстаўка мастацкіх прац нашага вядомага мастака з Валіл Лёніка Тарасэвіча.

Вялікай атракцыяй для турыстаў з'яўляюцца тут асвоеныя галубы, якіх можна карміць з рукі. Горад па традыцыі апякуецца галубамі.

Паводле легенды, галубоў прывезлі ў Венецыю з Кіпра ў падарунку для жонкі дожы. Па загадзе Гарадской управы штодзень раніцай на пляцы рассыпаюць зярняты кукурузы для галубоў. Але кожны можа тут купіць падрыхтаваны корм і карміць гэтых птушак. І я купіла ды карміла.

**Адрыяна Семянюк**

*Фота А. Ч.*



*Гарачыя ўспаміны лета. Уля Тарасэвіч з Гарадка і Алег Кабзар з Бельска-Падляшскага запісваюць для беластоцкага радыё свой гіт „Як правеў мяне Цімох".*

Фота Ганны Кандрацюк

## Мухамор

У яркім шоламе агністым,
Як рыцар — палюбуйся, бор!
Стаіць на варце, ганарысты,
Граза ўсім мухам — мухамор!

**Кастусь Цвірка**

## Журавы

Як пачулі журавы
Шум асенні баравы,
Паляцелі па імшары,
Пазбіраліся па пары,
Сталі дружна ў карагод.
З імі ўвесь лясны народ.
— Гэй, цыбатыя танцоры,
Вам ляцець у вырай скора!
Не таміце лёгкіх ног,
Не тапчыце мох, быльнёг.
Не тапчыце, журавы,
На балоце журавін.

**Станіслаў Шушкевіч**

## Вожык-возчык

Едзе, едзе лісця воз
Паміж клёнаў і бяроз.
Лісце жоўтае на возе.
Гэй, не стойце на дарозе!
Воз клубочкам пакаціўся —
Ліст ніводзін не зваліўся.
Падчапіў ён новыя
Два лісты кляновыя.
Едзе, едзе дзіўны воз
Паміж клёнаў і бяроз.

**Ніна Галіноўская**

# Вандроўнае слова на Беласточчыне

**„Вольным шлях не заказан ад пачатку вякоў...” Яны ўжо 32 гады нясуць роднае слова па розных кутках Беларусі. У Польшчы — на Беласточчыне — выступаюць безупынна ад 1991 года. Тэатр Пединстытута з Мінска „Жывое слова” ў гэтым годзе вандраваў па Гайнаўшчыне, каб тутэйшую штодзёншчыну арасіць жывой беларускай культурай.**




*Перад домам культуры ў Хітрай.*

**Вёска за вёскай**

У днях 14-18 жніўня тэатр адведаў вёскі Чыжыкі, Новаберазова, Дубічы-Асочныя, Хітрую, Барок, Пасечнікі-Вялікія і Арэшкава. Кіраўніком тэатральнага калектыву быў выкладчык Педагагічнага інстытута — Юрка Чарэнка. У гэтым годзе арганізатарам мерапрыемства ўпершыню выступіла Беларускае аб'яднанне студэнтаў, а трупай апекаваўся старшыня БАС Юрка Шульскі. Спонсарам вандроўкі быў Фонд Стэфана Баторыя, які даў грошы на аўтобус для мінскіх акцёраў. Ён таксама аплаціў кошт арганізацыі і прапаганды. На дзень да вандроўкі выйшла аднадзёнка „Вандроўнае слова”, якой аўтарамі з'яўляюцца Янка Мордань і ніжэйпадпісаны. Жыхары вёсак сардэчна віталі вандруючых, частавалі іх і прымалі на начлег.



*Мініяцюра „Экзамены”.*

Ужо ў першай вёсцы — Чыжыках — на артыстаў чакалі ад абеду, хаця прыбылі яны сюды ў восем вечара. Апрача выступленняў студэнты сустракаліся з жыхарамі вёсак. Наведалі яны таксама ахоўны рэзерват вадаплаўных птушак „Гурняньскія лонкі” і стадніну коней Мікалая Васілюка. У Гайнаўцы пабывалі ў Беларускім музеі і бары „У Валодзі”, дзе іх пачаставалі півам, салам, цыбуляй і хлебам. Далі яны тут супольны канцэрт з калектывам „Błękitny posorożec”. Жывaслоўцы ездзілі таксама ў Белавежу. Вандроўка „Жывога слова” была вельмі добра ўспрынята жыхарамі вёсак.

**Праграма канцэрта**

была вельмі разнастайная, прыстасаваная да вясковых гледачоў. У ёй кожны для сябе мог знайсці штосьці па душы. У час канцэрта гучалі песні на вершы А. Гаруна, А. Сыса, В. Вярбы, Р. Бёрнса, М. Машары, М. Мятліцкага, Я. Анішчыц і З. Лукашука, а таксама народныя і аўтарскія песні ўдзельнікаў тэатра. Жывaслоўцы дэкламавалі вершы У. Караткевіча, Я. Купалы, Л. Рублеўскай, Н. Гілевіча, М. Танка, К. Кірэнкі, Я. Брыля, Э. Агняцвет. Паказалі таксама мініяцюры: „Журавель і чапля”, „Экзамены”, „36,6°” (пра доктарку і хворага), „Самалёт”, „Прыгажуня”, „Здарэнне ў лесе”, „Кантралёр” і „Суседкі”. Чатыры пары можна было ўбачыць у розных танцах пад назвай „З рогу ўсяго патроху”. Жывaслоўцы паказалі ўрывак з рамана І. Мележа „Людзі на балоце”. Калектыў іграў прафесіянальна і з юнацкім уздымам.

**Сказалі пра вандроўку**

**Юрка Чарэнка:**

— Восьмы жнівень на Беласточчыне. Абышлі ўжо добрую сотню вёсак і мястэчкаў. Люблю вандраваць разам з хлопцамі і дзяўчатамі, бо бачу наколькі важныя і каштоўныя адчуванні і пачуцці, што ўзнікаюць і ў нас, і ў вяскоўцаў падчас нашых сустрэч. Сам палюбіў гэтую зямлю і яе людзей. Вандроўка ў гэтым годзе цешыць добрай арганізацыяй і прыемнымі спатканнямі з людзьмі, сяброўскімі дачыненнямі ў жывaслоўскім калектыве. Спадзяюся на добрую перспектыву нашых вандровак, якія ўспрымаю, апрача іншага, як наш упісак у будучыню нашай Бацькаўшчыны.



*Юрка Чарэнка.*

**Алена Чарэнка:**

— Шосты раз на Беласточчыне. Лічу што ў „Жывым слове” ёсць пэўная аўра, бо кожны год да нас далучаюцца людзі з Беласточчыны, ім вельмі падабаецца размаўляць з моладдзю, атрымліваць тое моцнае і шчырае, што напраўду ёсць у іх. Увогуле людзі, якія жывуць на Беларусі моцныя, бо ўсё роўна выжываюць і прыцягваюць да сваёй культуры ўсё болей людзей.

**Дзмітрый** (18 гадоў):

— Я адчуваю тут сябе як дома, менавіта таму, што тут, на Беласточчыне, жывуць такія ж гасцінныя і добрыя людзі, як і на Беларусі.

**Галіна** (21 год):

— Вельмі добрыя і чуллівыя тут людзі. Цёпла сустракаюць у кожнай вёсцы. Кожны канцэрт праходзіць у атмасферы дабрыні.

**Тацціяна Лукашэвіч** (21 год):

— Я настолькі люблю вандроўку па Беласточчыне, што не магу выказаць усе ўражанні: гэта не толькі выступленні, не толькі сустрэчы з новымі людзьмі — беларусамі ў Польшчы, гэта сяброўства і шчырыя адносіны паміж намі—жывaслоўцамі. Мы яшчэ больш гуртуемся, дзелім адзін з адным першыя радасці і рэдкія нязгоды. Беласточчына — гэта асобны дух, яна мае свой пах. Гэта пах вандроўкі.

**Алена** (24 гады):

— Нас вельмі многае аб'ядноўвае: зямля, гісторыя, культура... Таму мусіць, на Беласточчыне заўсёды адчуваеш сябе, як дома. Такія ж родныя і людзі: заўсёды ветліва сустракаюць, смачна частуюць, прыязна ставяцца. У нас шмат аднолькавых песень, вершаў, нас турбуюць падобныя праблемы — таму нам добра разам, таму мы 8 гадоў запар прыходзім з вандроўкамі сюды. Шчасце гэтай зямлі!

**Алег Рэкуць:**

— Беласточчына... звычайнаму чалавеку гэтая назва амаль нічога не гаворыць. Мусім толькі апынуцца ў гэтым цудоўным кутку Беларусі, разумеем, якой яна магла быць, каб не Вялікая кастрычніцкая рэвалюцыя.

Здаецца людзі тыя ж, што і нашы, але адчуваецца нейкая ўпэўненасць у наступным дні, чаго не ўбачым у нашых вяскоўцаў. Але бачна і аднолькавае. Усе мы маем націск ад нашай дзяржавы. На Беласточчыне — паланізацыя, а на Беларусі — русіфікацыя. Аднак, апынуўшыся ў асяроддзі вяскоўцаў Беласточчыны, разумеем, што ні рускія, ні палякі не змогуць ні ў якім разе знішчыць тое, што на працягу стагоддзяў лічылася беларускай нацыяй. Перш за ўсё не дазволяць знішчыць тыя, хто разумее сапраўдны сэнс свайго жыцця. А сапраўдны сэнс — гэта шанаванне сваёй Бацькаўшчыны, захаванне роднай культуры і мовы, выхаванне патрыятызму ў новага маладога пакалення. Звычайна, прыехаўшы на Беласточчыну, сэрца напаўняецца ўпэўненасцю, што Беларусь нікому не пад сілу знішчыць з вобліку Зямлі.

**Вольга** (20 гадоў):

— Я люблю Беларусь і мне здаецца, што яна жыве тут, на гэтай зямлі. Мова жыве, людзі жывуць. Дабрыні Вам.

**Развітальнае слова**

У кожнай вёсцы развітальнае слова браў кіраўнік тэатра Юрка Чарэнка: „Ёсць тое, што заўсёды аб'ядноўвала і будзе нас аб'ядноўваць у адну вялікую сям'ю, гэта наша радзіма, гэта наша бацькаўшчына. І не так важна, што яна раздзелена яна дзяржаўнаю мяжой, галоўнае, што мы адчуваем яе, што яна ў сэрцы і душы кожнага з нас.



*Мініяцюра „Журавель і чапля”.*

Зямля не такая вялікая, каб на ёй не знайшоўся час, не знайшлося месца і магчымасць сустрэцца добрым людзям і гэтыя сустрэчы будуць заставацца ў памяці, а нешта нядобрае, злое, што здараецца, на жаль, таксама і вельмі можа часта, яно забудзецца. Застанецца дабро, добры ўспамін і новыя, новыя сустрэчы”.

Сапраўды „Жывое слова” аставіла многа добрых успамінаў.

**Славамір Кулік**

*Фота аўтара*

*PS. Арганізатары сардэчна дзякуюць солтысам і жыхарам усіх вёсак, якія наведала „Жывое слова”.*

# Кожны адкажа сам сабе...

[1 ☞ працяг]

стачкамі, намочанымі ў крыніцы. Астаўлялі хустачкі на беразе рачулкі: пасля манашкі з тутэйшага манастыра пазбіраюць іх.

Каб пакінуць тут свой боль і крыўду, людзі прыносяць крыжы: вялікія, малыя і зусім маленечкія. Шукаюць надзею на будучыню. Ведаюць, што і тады, у 1710 годзе, калі ў Сямятычах шалела зараза, крыж, занесены на Гару Грабарку, выратаваў многіх ад смерці.

Сёлета нясуць сюды не толькі крыжы, але і камені. Не, не кіне праваслаўны чалавек каменем у другога. Камені патрэбныя тут, каб абгарадзіць Святую Гару. Мур паўстане як сімвал супольнай працы, людскіх ахвяраванняў. Няхай кожны прынясе сюды сімвалічны камень, заклікаў мітрапаліт Сава.

Адгукнуліся на гэты заклік і беларускія дыпламаты, якія прыехалі на Грабарку: Мікола Крэчка, консул РБ у Беластоку, віцэ-консул Павел Латушка, ды прадстаўнікі пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве на чале з саветнікам пасольства Уладзімірам Каральчуком. Консул М. Крэчка быў вельмі ўзрушаны. — А камень прывезлі? — спыталася я. — А як жа! — сцвердзіў ён. — Абавязкова!

Сёння ідзе дыскусія наконт таго, ці патрэбныя на Святой Гары ларкі з драбязой, якія паяўляюцца на кожным фэсце або кірмашы. Ці не псуе гэта такой урачыстай хвіліны?! Гандляры тлумачаць, што датуль яны тут патрэбныя, пакуль людзі ў іх купляюць. Думаю, аднак, што паломнікі будуць ісці сюды і без гэтых ларкоў. Сапраўды, псуюць яны каларыт гэтага спецыфічнага свята. Замнога іх тут — з непатрэбшчынай.

Але вось кніжкі — рэч карысная. „Ортдрук" прадставіў свае выдавецкія навінкі: „Mogę spokojnie umierać", „Ścieżkami prawosławia", „Święta Góra Grabarka" ды іншыя. Анна Радзюкевіч падпісвала свае выданні. Сёлета не было відаць тут паслоў у Сейм. „Лоні былі і Чыквін, і Кандрацюк, — сказала з жалем мая спадарожніца Геня Артэмюк з Бельска. — Во тут якраз яны стаялі!" Ну так, але ў мінулым годзе яны кандыдавалі, напомніла я ёй.

Тысячы-тысячы людзей збіраецца на Спаса ці свята Праабражэння Госпаднага на Грабарцы. Аўтамабілі сведчаць найлепш, адкуль яны з'явіліся сюды. Вядома, найбольш з Беластока, Любліна, Варшавы. Але ж ёсць з Чэнстаховы, Кракава, Познані, Гданьска, з Германіі, Бельгіі і інш. Ці ўсе гэтыя людзі праваслаўныя? Не, шмат тут католікаў, ёсць пратэстанты. Праваслаўная вера не адкідае ад сябе нікога: няхай памоляцца, як умеюць, нап'юцца святой вады, абмыюцца ў жыватворнай крыніцы. Бог, ён жа для ўсіх Богам.

Адны ідуць на гару з верай і надзеяй, што дадасць яна ім сіл, вылечыць хворых, паможа нешчаслівым. Іншыя прыходзяць, бо так трэба, бо яны — праваслаўныя. А яшчэ хтосьці бывае тут дзеля таго, каб сустрэцца са знаёмымі, пабачыць блізкіх па веры людзей, а мо нават для разрыўкі, як на фэст.

Усе яны, аднак, разам зберагаюць традыцыю — адзін з найманейшых бакоў праваслаўя. А на пытанне, хто ён і чаго сюды прыйшоў, найлепш кожны адкажа сам сабе.

**Ада Чачуга**

*Фота Багуслава Скока*

VIII пілігрымка з Гайнаўкі на Святую Гару Грабарку

# Паломніцтва — гэта ахвяра і збліжэнне да Бога



— Ідзем у пілігрымку, каб памаліцца і кожны верыць, што Бог дапаможа. Паломніцтва — гэта ахвяра і збліжэнне да Бога. У час падарожжа можна перадумаць, што рабілася кепска, а што добра, — кажа Эдыта Чапко, выпускніца Гайнаўскага белліцэя, зараз студэнтка Мінскага медыцынскага інстытута, якая першы раз ішла пяшком на Грабарку.

— Людзі ходзяць для Божай ласкі, каб ласкава паглядзеў на нас на канчатковым судзе. Найчасцей просім Бога, ідучы на Святую Гару, ахвяроўваем нешта Богу. Праз паломніцтва ажывае душа, — гаворыць Івона Раманюк з Гайнаўкі, студэнтка Мінскага медыцынскага інстытута, якая ўжо сёмы раз ішла пяшком на Грабарку і два разы хадзіла з Гайнаўкі ў Супрасль.

* * *

Сёлета перад святам Праабражэння Госпадняга (Спаса) на Святую Гару Грабарку ішло з Гайнаўкі 347 паломнікаў. Пачынаючы ад 1991 года было гэта ўжо восьмае самастойнае паломніцтва з Гайнаўшчыны. Ініцыятарам першых асобных пілігрымак з Гайнаўкі быў айцец Пётр Пяткевіч, які зараз у Беластоку. Духовым апекуном усіх паломніцтваў з Гайнаўкі быў настаяцель прыхода Святога Іаана Хрысціцеля, што ў Гайнаўцы, айцец Леанід Шэшка. Тры разы ішоў таксама з паломнікамі ў Супрасль і ўжо здаўна арганізуе многа пілігрымак у розныя манастыры і святыя месцы.

— Спачатку паломнікі прынялі ўдзел у Святой Літургіі і адбылося асвяшчэнне вады, бо выходзілі мы 14 жніўня ў свята мучанікаў Макавеяў, — расказвае айцец Леанід, які ўсю дарогу ішоў з паломнікамі. — Па дарозе прымалі нас вельмі ветліва, давалі харчаванне і начлег. Кожны дзень служыліся Святая Літургія і вячэрня, а многія пілігрымы прыступалі да споведзі і прымалі Святое Прычасце. Карыстаючыся нагодай, хацеў бы падзякаваць настаяцелям парафіяў і людзям, якія дапамаглі нам у дарозе, жыхарам прыхода святога Дзмітрыя, што на Юдзянцы, жыхарам Арэшкава, Песак, Мацкевічаў, Вярстока, Гайнаўкі, Апакі, Кузавы, Чаромхі-вёскі, Зубачоў, Клюковічаў, Літвінавічаў і Тэлятычаў.

— Сёлета ішло вельмі многа моладзі, а менш асоб, якія пастаянна хадзілі з Гайнаўкі ў мінулых гадах. Многа таксама было дзяцей. Гжэсь Жукавіцкі, які зараз ходзіць у пяты клас падставовай школы, ужо можа пяты раз ішоў. Памятаю, як раней насілі яго. Суадносіны паміж паломнікамі былі вельмі добрыя. Усе дзяліліся харчаваннем, дапамагалі сабе. Парадак таксама быў, бо айцец Леанід умее адпаведна падысці да моладзі. Вопратка таксама была адпаведная, усе дзяўчаты ішлі ў хустках і доўгіх спадніцах. На першы дзень, у пятніцу, ішоў дождж і некаторыя гаварылі, што гэта на ачышчэнне, але пасля ўжо было добрае надвор'е. Каля крыжоў віталі нас жыхары вёсак хлебам і соллю. Елі таксама пасля малітвы. Прыемнай таксама была сустрэча ў Тэлятычах з паломнікамі з Саколкі, — расказвае Івона Раманюк.

— Калі пачыналі хадзіць было недзе 140 асоб, а з кожным годам паломнікаў большае. Наймалодшы паломнік Мацвей Засім толькі пойдзе ў першы клас падставовай школы, а найстарэйшай кабеце, Надзеі Сац — 72 гады. Ужо восьмы раз ішла на Грабарку Анастасія Асіпюк, галоўны бухгалтар новапабудаванай царквы Святога Іаана Хрысціцеля, якая і ў Супрасль усе разы хадзіла і многа разоў у Яблачын.

Сярод пілігрымаў былі не толькі гайнавяне, але і вернікі парафіяў Белавежа, Орля, Чыжы, Дубіны, Падбелле, Нараўка, Пасынкі, Курашава, Новаберазова, Ласінка, Нарва, Арэшкава, Кляшчэлі, Бельск-Падляшскі. Былі і асобы з Беластока, Варшавы, Гданьска, — гледзячы ў спіскі даволі дэталёва расказвае настаяцель Леанід Шэшка. — Усё паломніцтва ішло з малітвою аб захаванні праваслаўя, а індывідуальныя асобы маліліся за здароўе блізкіх, каб не было алкагалізму ў сям'і. На Святую Гару мы зайшлі ўжо ў панядзелак перад вячэрняй. Тры разы з крыжамі абышлі на каленях царкву і пасля вячэрні адслужылі малебен і асвяціўшы вялікі крыж і індывідуальныя крыжы пілігрымаў паставілі на тым месцы, дзе ставім заўсёды. Асабіста я задаволены з паломніцтва, што так многа моладзі пайшло. Апрача круглых багаслужэнняў многа спявалі і маліліся індывідуальна (Малітва Ісусава). Прыгожа таксама хор спяваў.

— Ісці не было цяжка, бо многа было адпачынку, а з начлегамі таксама не было клопатаў. Толькі ў Войнаўцы, дзе мала хат, некаторыя ў клунях спалі, — гаворыць Ася Масайла, вядомая чытачам вучаніца Гайнаўскага белліцэя, якая ішла трэці раз. — Пайшлі з сябрамі памаліцца перад матурай, перадумаць нейкія справы. У час паломніцтва жыццё з малітвай, спакойнае і без спеху. Айцец Леанід умее і адпаведна заахвоціць моладзь і трымаць парадак.

— Пайшлі, каб памаліцца і стаць крыху лепшымі, — кажа Аня Васілюк, таксама ліцэістка з Гайнаўкі, якая паломнічала пяты раз. — Не было праблем, дык думаю, што і ў наступным годзе пайду.

**Аляксей Мароз**

# Як перакладаць свяшчэнныя тэксты

Гэта самая цяжкая праблема праваслаўя ў Польшчы. Я пераклаў на польскую мову літургію св. Іаана Златавуснага, мне пра гэта і пісаць.

Перш за ўсё **смяротным** грахом перакладчыка заўсёды будзе базіраванне на перакладзе, а не на арыгінале, аўтэнтыку. Калі не хочам патраціць якіхсьці пяць гадоў на аваладанне іўрыта г.зн. стараяўрэйскай мовы для Старога Запавета і столькі ж на старагрэчаскую для Новага, тады „сядзі ды не рыпайся, тай годзе". Некаторыя кажуць, дарую сабе мову Майсея, вазьму сабе септуагінту, інакш **грэчаскі** пераклад Старога Запавета зроблены сямідзесяццю перакладчыкамі (адсюль і яго назва). Напісаны ён быў у III стагоддзі да нашай эры, але ўжо ў II ст. пасля Хрыста ён прызнаны перакладам. Таму прыйшлі новыя спробы: Аквілы, Тэадцыяна, Сімаха, Арыгэна, Ісіхія ды Лукіяна.

Па-другое, трэба мець індэксы (канкарданцыі, гармоніі) для двух Запаветаў. Для першага найлепшы Гезэніуса (з нямецкай мовы) і такі ж для другога — Баўэра.

Па-трэцяе, трэба памятаць, што хоць Новы Запавет напісаны па-грэчаску, дык аўтарамі былі яўрэі, якія думалі штодзённа па-арамэйску, а ў царкве — па-стараяўрэйску (іўрыт).

Па-чацвёртае, праваслаўная літургія, напісаная па-грэчаску святым Васіліем Вялікім ды скарочаная св. Іаанам Златавуснам.

Exempla docent. Маем прыклад, як навуковы работнік разважае трудную праблему. У артыкуле Альгерда Неўроўскага пра „Службоўнік на мове беларусаў" (Таронта, Канада 1980 і 1994) напісана: „Тэалагічны і найбольш адпаведны тэрмін «чалавекалюбец» невядома з якой рацыі перакладаецца, як «любіцель (?!) людзей». Тутака маем спакусу прымяніць моўную кальку.

У арыгінале „человеколюбец" гэта „філ'ансфропос". Тут два кораня „філь" — люблю і „ансфроп" — чалавек. У яўрэйскай мове апроч імёнаў уласных двух карэнняў амаль не бывае. У „септуагінце" гэтае слова адсутнічае. А ў яўрэйскім перакладзе літургіі (Санкт-Пецярбург 1846) два разы выступае слова „человеколюбец" як „рахум" (але лепш ханун?), значыцца „ласкавы" не толькі перад людзьмі, але *і ўсім стварэньнем!* Папольску — miłościwy. У псальме 145: 8,9 маем: „Госпад ласкавы і міласэрны, няскоры да гневу й ласкай вялікі. Госпад добры да **ўсіх**, і літасць ягоная — па-над усе Яго справы".

У Новым Запавеце слова „філансфропос" не выступае, а гэта ж вельмі патрэбнае паняцце. Значыцца, яно было ўзята або з якогась дыялекту, або проста гэта неалагізм.

Вывад ясны: трэба тут базіраваць на адным адзіным корані, так як гэта было ў Абрагама, Ісаака і Якава.

Не кожны можа быць вучыцелем — кажа Біблія.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

*(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)*

**Частка XIII**

У кожнай мясцовасці некалі існавалі свае святы. Святы памінання продкаў „Дзяды” ў Кунцаўшчыне адзначаліся два разы — восенню і зімой. У кожнай царкве было сваё прастольнае свята. У нашым прыходзе, у вёсцы Лаша, дзе была царква святога Мікалая, прастольнае свята адбывалася 22 мая — Мікола, яго яшчэ называлі фэстам. На фэст з'язджаліся людзі з усіх навакольных вёсак і з іншых прыходаў. Ішлі і ехалі старыя і маладыя, хлопцы і дзяўчаты. Прыязджалі здалёк родзічы. Пад лашскую царкву адусюль зыходзіліся жабракі. Некаторыя з іх прыязджалі вазамі з будамі. У некаторых жабракоў былі музычныя інструменты, так званыя ліры. Пад царкву з'язджаліся цукернікі, якія арганізоўвалі гульні ў цукеркі, абдурвалі людзей. У канцы службы ў царкве прыходзілі, згоджаныя на гулянне, музыкі: гарманіст, скрыпач і бубніст. Да самай раніцы не спала вёска, не сціхала гулянне. На Міколу наладжвалася гулянне і ў нашай Кунцаўшчыне. Прыязджалі пасля абедні ў царкве ў госці родзічы, прыходзілі знаёмыя, хлопцы і дзяўчаты. Пасля выпіўкі пачыналася гулянне, танцы. Асабліва ў тыя часы моднымі танцамі былі: полька-галёп, з прысядам, кракавяк, нарэчанька, падыспанец, вальс і іншыя. Гулянне амаль кожны раз заканчвалася трагічна, асабліва перад нямецка-польскай вайной 1939 года. У кожнай вёсцы была модна панажоўшчына. Амаль кожны хлопец, кавалер (як тады называлі дарослага хлопца), на гулянне не ішоў з голымі рукамі, а меў з сабой фінку ці складаны або звычайны нож. Некаторыя прыходзілі на гулянне з гірамі, прымацаванымі ў рукавах на спецыяльных пружынках. Амаль не было такога гуляння, вечарыны, каб каго-небудзь з хлопцаў не забілі або не парэзалі. Польскія ўлады ў тыя часы за гэта моцна не каралі, не судзілі. Абы толькі ў палітыку хлопцы не ўмешваліся! Гэтае было самае страшнае для беларусаў, бо яны самі сябе знішчалі. Завадатараў панажоўшчыны ў вёсках тады называлі збойцамі. Кожная вёска мела свайго збойцу. Нават ганарыліся імі. Самым страшным панажоўшчыкам-збойцам у тыя часы быў нейкі Ніканор з вёскі Ярмолічы (цяпер у Бераставіцкім раёне). Гэта быў малады хлопец высокага росту, танклявай фігуры, прыемнага выгляду, але авантурыст, задзіра. Казалі, што ў яго было дваццаць чатыры зажыўшых нажавых ранаў, якія ён атрымаў у бойках. Вось гэты збойца Ніканор, дзе толькі з'яўляўся на гулянніх, там і пачыналася бойка, затым — панажоўшчына. Абавязкова каго-небудзь з хлопцаў парэжуць або заб'юць. Вось гэты Ніканор пасля царквы з Лашы са сваімі сябрамі, якраз на Міколу, і завітаў у Кунцаўшчыну. Было іх каля 15 чалавек, старых кавалераў. Не жаніліся, бо мала было зямлі. Не было на чым жыць, разводзіць гаспадарку, абзаводзіцца сям'ёй. Гэтыя старыя кавалеры і хадзілі па фэстах, шукалі прыгодаў. Завіталі яны і ў Кунцаўшчыну. Не прайшло і паўгадзіны танцаў, як Ніканор знайшоў прычыну, каб пачаць бойку. Ён ударыў Шаўцову Валодзю па галаве, але той быў ужо падрыхтаваны. Меў у рукаве на пружыне гіру. Махнуў рукой, гіра выскачыла з рукава і ўдарыла Ніканора ў грудзі, да галавы не дастала. Вось і пайшла бойка. Закрычалі дзяўчаты. Кінуліся кунцаўскія хлопцы, усё змяшалася. Заенчалі дзеці, заагаласілі жанчыны. Пайшлі ў ход фінкі, нажы і гіры. На гэты крык падняліся бацькі, старыя дзяды, сваякі, якія прыехалі на фэст з іншых вёсак. Усе добра падвыпіўшы, пабралі калы, сякеры, хто што мог і давай гваздзіць ярмоліцкіх збойцаў, на чале з іх Ніканорам. Нічога не памаглі ім ні фінкі, ні нажы, ні гіры, якімі яны былі ўзброены. У гэтай бойцы з ярмолічамі асабліва вызначыўся сямідзесяцігадовы дзед Ігнась Судзін. Ён са сваімі жанатымі ўжо сынамі, трымаючы ў моцных руках акладзіну, гваздаў ёю панажоўшчыкаў, у тым ліку і іх кіраўніка, завадатара Ніканора. Так што бойка скончылася перамогай кунцаўлян. У ёй прынялі ўдзел не толькі хлопцы, мужчыны, дзяды, але і дзяўчаты. Панажоўшчыкі пабітыя, пакалечаныя вымушаны былі пакінуць Кунцаўшчыну, хаця Паўлюку Слаўнаму і Валодзі Баламутаваму нанеслі нажавыя раны, парэзалі рукі.

Хочацца паясніць, чаму па-вулічнаму сям'ю Краўцэвічаў у вёсцы сталі называць Слаўнымі. Старыя казалі, што ў Кунцаўшчыне здарыўся такі выпадак. У вёсцы нечакана паявіўся вядомы на ўсю акругу асілак, па прозвішчы — Фарат, п'яны. Ён без ніякай прычыны прыставаў да мужчын, біў іх да смерці. Заходзіў з хаты ў хату. Усе баяліся, уцякалі. Ніхто не мог супраць яго ўстаяць. І раптам напаткаў ён Краўцэвічага Ёзіка, невысокага росту і не вельмі моцнага складу хлопца. Фарат глянуў на яго і хацеў зразу зграбастаць яго пад сябе, але той у бойку з ім не уступаў. Лоўка ад яго ўхіляўся, адступаў, выкручваўся адшпіляючы нахаду сваю дзягу з мядзянай, масіўнай спражкай. Адшпіліўшы дзягу, Ёзік з такой сілай урэзаў Фарату спражкай па скроні, што той, як сноп, зваліўся на зямлю. Тады Ёзік спрытна скочыў на яго, яшчэ некалькі разоў урэзаў спражкай па галаве, затым звязаў яму рукі. Такім чынам, нічым непрыкметны фізічнай сілай Ёзік Краўцэвічаў перамог вядомага асілка Фарата. З той пары аднавяскоўцы сталі Ёзіка называць Слаўным і нашчадкі яго ў Кунцаўшчыне сталі называцца Слаўнымі, замест Краўцэвічамі.

Царкоўныя прастольныя святы шырока адзначаліся ва ўсіх царкоўных прыходах. Гэтых фэстаў баяліся польскія акупанты, бо адусюль збіралася на іх рэвалюцыйна настроена моладзь. На дрэвах вывешвалі яны чырвоныя сцягі, антыўрадавыя транспаранты. Таварыства беларускай школы праводзіла шырокую работу па арганізаванні барацьбы за беларускую школу. Кіраўнікамі і актыўнымі дзеячамі ТБШ у тыя часы былі: Браніслаў Тарашкевіч, Ігнат Дварчанін, Рыгор Шырма, Пятро Мятла, С. Паўловіч і іншыя.

Памятаю, як мой бацька з мачахай прыехалі з фэсту, які праходзіў ў Алекшыцах (цяпер у Бераставіцкім раёне) і расказваў, як выступаў перад народам ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Браніслаў Тарашкевіч. Як ён, стоячы на сялянскім возе, недалёка царквы, кляйміў палітыку буржуазнага, захопніцкага ўрада Польшчы. Як на яго напалі паліцыянты, сцягнулі з воза. Хацелі арыштаваць, але хлопцы абаранілі, пачалі біць польскую паліцыю. Расказваў, як на дапамогу тэрмінова была выклікана паліцыя з Гродна, якая ледзьве змагла разагнаць мітынг. Многіх арыштавалі, у тым ліку і майго бацьку з мачахай. На машыне завезлі ў Гродна, але пасля допытаў іх адпусцілі.

Такія фэсты з мітынгамі штогод адбываліся ва ўсіх царкоўных прыходах: Капцёўскім, Індурскім, Дзерачынкоўскім, Коматаўскім, Луненскім, Верцялішскім, Абухаўскім і іншых.

*(працяг будзе)*

**Апанас Цыхун**

**Апавяданні з маёй маладосці**

# Праз суды да бяды

У даваеннай Польшчы надта ж папулярнымі былі суды. Дзяржава судзіла сялян за незаплачаныя падаткі, за крадзеж лесу, за разбой і палітыку. Сяляне судзіліся ў сям'і за падзел маёмасці, судзіліся з суседзямі за прыараную баразну. Суды абдзіралі і так голых сялян. Праз суды да бяды, — казалі людзі.

Мой бацька абіваў парогі судовых будынкаў усё міжвойне. Дзедка Ілья падзяліўся ўчасткам зямлі (дзесяць гектараў) са сваім братам Вікторыем, які выехаў у бежанства падчас першай сусветнай вайны і абжыўшыся ў глыбі Расіі, не вярнуўся ніколі на радзіму. Пасля смерці дзедкі мой бацька апрацоўваў увесь участак зямлі і карыстаўся будынкамі дзядзькі Вікторыя. Дзедка меў яшчэ сястру, якая выйшла замуж у вёску Гурнае, што знаходзіцца цяпер у межах Гайнаўкі. Гэтая ж сястра атрымала ад брата з Расіі паўнамоцтвы на пераняцце яго гаспадаркі з усёй жыллёвай маёмасцю. Яна, са сваім энергічным мужам, якога ў нас звалі Гурначом, падалі майго бацьку ў суд. Пачалася судовая валакіта. Пасля некалькіх гадоў Гурначы адсудзілі ад майго бацькі і прадалі будынкі Вікторыя: хату, хлявы і клуню. Бацька, аднак, заядла судзіўся за зямлю, мяркуючы, што ўчастак зямлі будзе патрэбны да падзелу двум сынам — мне і майму брату Пятру. Прадбачлівы бацька купіў у суседнім Збучы гектар зямлі на пасаг маёй сястры Ніне.

Суду не залежала на хуткім вырашэнні справы. Галоўнае — выцiснуць як мага больш грошай.

Гурнач штогод прыязджаў да майго бацькі і казаў:„Зямля нам належыцца, а ты ёю карыстаешся, дык плаці нам за гэта”. І мой дабрадушны бацька насыпаў у мяшкі пшаніцу ці браў з хлява на пастронак кароўку і аддаваў нахабніку. Абы толькі была згода. Даведзены да крайнасці бацька хацеў ужо прадаць сваю гаспадарку і эміграваць у Аргенціну. Справа была ўжо амаль аформленая. Заставалася толькі ўплаціць адпаведную суму за падарожжа параходам у Аргенціну. У судзе аднак яго суцешылі, што можа яшчэ выйграць справу і ён устрымаўся з выездам.

Вырашэнне судовай справы папярэдзіла, аднак, нападзенне гітлераўскай Германіі на Польшчу. Па дамоўленасці СССР з Германіяй на Беласточчыну ўвайшла Чырвоная Армія. Зямля раптам страціла сваю вартасць. Аказалася, што не было сэнсу за яе судзіцца. Гурнач перастаў даходзіць сваіх правоў на маёмасць і ўжо больш у нас не паявіўся. У вёсцы арганізаваўся калгас, у які бацьку ўдалося не ўвайсці толькі па прычыне свайго калецтва. Увагнала яго, аднак, у спулдзельню прадукцыйную народная ўлада ў Польшчы. Я выехаў вучыцца ў горад і ў вёску ўжо не вярнуўся. Не ўдалося мясцовым уладам, хаця і рабілі такія захады, вярнуць мяне на гаспадарку. Бацькі заўчасна паўміралі ад хвароб, непасільнай працы і нервовага жыцця з прычыны судовых здзекаў. Празмерна доўга давялося ім судзіцца за зямлю. На гаспадарцы астаўся мой брат Пётр, які апрацоўваў цэлы ўчастак зямлі. Цяпер ён пенсіянер і яго зямля стала ўласнасцю дзяржавы.

**Віктар Швед**

# Жывая гісторыя і памяць

Даўно таму наведала мяне дваюрадная сястра маёй жонкі і папрасіла мяне дапамагчы ёй сабраць інфармацыі пра мінулае Дубіч-Царкоўных: гісторыю, абычаі, назвы ўрочышчаў і г.д.; гэты матэрыял быў ёй патрэбны для магістэрскай працы, аб'ектам якой яна выбрала маю вёску. Я расказаў ёй тое, што сам ведаў, а пасля пайшлі мы яшчэ да найстарэйшага тады ў вёсцы Панаса Іванюка, каб ён папоўніў мой расказ. Гаварыць ён умеў многа, аднак калі мы выявілі яму, у чым справа, ён разгубіўся і нічога талковага пра мінулае вёскі не патрапіў сказаць, што, у сваю чаргу, мяне вельмі здзівіла. Выйшаўшы ад яго, я згадаў пра яшчэ аднаго, хаця маладшага, чалавека — Івана Чыквіна, дзядзьку вядомага нашага паэта і вучонага Яна Чыквіна. Падаліся мы да яго.

Дзядзька Іван прывітаў нас вельмі сардэчна ды пачаў расказваць пра мінулае нашай вёскі як нейкі гісторык. Мая сваячка ўсё гэта вельмі пільна запісвала ў свой блакнот, а я пакінуў іх, бо спяшаў на працу. Пасля яна не знаходзіла слоў удзячнасці Івану Чыквіну за яго расказ, а мне за тое, што пазнаёміў яе з гэтым мудрым чалавекам, бо тое, што ён ёй расказаў, напэўна прыдалося ёй у яе дапломнай працы. Я добра жыў з Іванам Чыквіным і шкадую, што не паспеў запісаць ад яго гісторыю нашай вёскі і яго цікавыя выказванні; ён памёр нечакана пад восень 1985 года. Шкада такіх людзей, якія маюць дар бачыць свет іншым, вачамі не прагнымі багацця.

Калісьці ў нашай вясковай святліцы Васіль Дзун расказваў пра гісторыю Беларусі і нашага беластоцкага куточка. Калі ён закончыў сваю лекцыю, пачалася дыскусія. І помню, як Іван Чыквін прадэкламаваў вялікі і прыгожы беларускі верш з „Маланкі” — людзі білі апладысменты! Іван Чыквін амаль ніколі не хадзіў у школу, бо паходзіў з беднай сям'і, але не кожны вучаны ўмеў так як ён выказваць свае думкі на розныя тэмы. Нягледзячы на яго стойкую камуністычную перакананасць, быў ён чалавекам спагадлівым і добрым; яго сямейнікі таксама добра і цёпла адносіліся да людзей.

І сёння ў Дубічах-Царконых пражываюць старэйшыя людзі, якім ужо перавыліла за дзевяноста, аднак ніхто з іх пра мінулае вёскі талкова не раскажа, бо на гэта патрэбны асаблівы дар. А многія людзі і калісь, і сёння за багаццем, грашыма і славаю свету не бачаць, а сваё мінулае, культурная спадчына, мова, прырода — іх зусім не цікавяць. Гэта для іх абстракцыя і пустата. Для іх мае вартасць толькі матэрыяльнае багацце. А прыгажосць прыроды і маральныя каштоўнасці цэняць толькі сапраўдныя мастакі.

**Мікалай Панфілюк**

# Чатырохгадовая прадаўшчыца вады

**Лідзія МАРТЫНОВІЧ (з дому Мураўская), сёння 82-гадовая жыхарка Орлі, нарадзілася ў бежанстве. З маленства ёй і крыху старэйшаму брату Косці давялося зарабляць на жыццё гандлем.**



*Сям'я Мураўскіх адвозіць на чыгуначны прыпынак Косцю, які падаецца ў падарожжа ў Познань — 1956 год.*

— Мае бацькі Андрэй і Анна Мураўскія з маленькім Косцем выехалі з Орлі ў Расею ў жніўні 1915 года. Пасялілі іх у Маскве і там я з'явілася на свет у снежні гэтага ж года. Адзіная памятка таго часу — гэта пажоўклая фатаграфія, на якой відаць мяне ў трохгадовым узросце і брата Косцю.

Бацька працаваў паштальёнам, а маці пільнавала дзяцей ды выпякала хлеб, які потым прадавала на базары. Як праз імглу памятаю трывожны 1918 год, калі мама пайшла дзесьці на вёску за мукой, а бацька з паштальёнскай сумкай збіраўся ісці на работу. Я выбегла за ім, упала на зямлю і моцна збіла палец. Татка мусіў тады ўзяць мяне на рукі і разам са мною насіць лісты па кватэрах.

У чатырохгадовым узросце стала я пасабляць бацькам. Разам з Косцем дапамагалі мы маме прадаваць хлеб на базары. У спякотныя дні сталі мы таргаваць вадой. Адбывалася гэта такім чынам, што бралі мы ваду са студні і разносілі яе гандлярам па ларках, а яны давалі нам за гэта то памідора, то кавалак студзіны („худкоў”) ці іншай ежы. За дзень збіралі мы цэлы кошычак харчоў для дому.

Перад вяртаннем у Польшчу пераехалі мы разам з іншымі арлянцамі ў Самару. У адным вагоне ехалі з намі дзед з бабуляй, бацькі Шуры Стальмашук і Аляксандра Мартыновіча, Шымчыха. Вярнуліся мы ў 1921 годзе. У Бельск дабраліся мы на Пакровы. За намі прыехаў з Орлі дзед Колі Мураўскага жалезным возам запрэжаным у пару белых коней.

Нашы дамы былі спалены і праз нейкі час „шалаліся” мы ад хаты да хаты. Спачатку жылі на Нарваўскай вуліцы (цяпер называецца яна Міцкевіча), у маленькай хатачцы, побач якой жылі толькі яўрэі, потым у Астапчанкі, затым у Пятроўскага. Бацька паставіў хату з круглякоў у другім канцы Орлі, каля царквы. Ужо з новага дома пайшла я ў школу. Доўга я не вучылася, бо маці сказала, што і так настаўніцай не буду. Цяжка тады жылося і пра навуку людзі не думалі. Не хапала грошай на сапраўдныя боты. Памятаю, што сваячка пашыла мне нейкія башмакі са старых анучаў і я цешылася.

Пад канец студзеня 1936 года выйшла я замуж за Сцяпана Мартыновіча.



*Трохгадовая Лідзія Мураўская з братам Косцем — 1918 год.*

Вянчаў нас бацюшка Уладзімір Вішнеўскі. З таго часу стала я спяваць у царкоўным хоры, якім кіраваў псаломшчык Радзівон Агіевіч. Рэпетыцыі адбываліся перад вялікімі святамі ў хаце псаломшчыка — у памяшканні, дзе стаяў запарнік. Псаломшчык тады трымаў каня і абрабляў сваё поле. Гаспадаркай займаўся таксама і бацюшка. Меў ён сенажаць каля Кашалёў і калі нам не ставала сена, то ў настаяцеля купілі.

Да вайны нарадзілася ў нас трое дзяцей. Незадоўга да выбуху вайны мужа прызвалі ў войска, за Беласток. Памятаю, што мы з адной жанчынай з Міклашоў хадзілі туды пехатою адведаць сваіх мужоў. Пасля абучэння майго мужа адпусцілі дадому, але потым узялі на фронт. Змагаўся ён пад Ваўкавыскам і шчасліва вярнуўся дамоў.

Пасля вайны, у 1947 годзе, нарадзіліся блізняты — Ніна і Алёша. Усім пецярым дзецям трэба было даць адукацыю і гэта мне ўдалося.

Мой брат Косця іграў у духавым пажарным аркестры, потым чатыры гады правёў у турме за палітычную дзейнасць. Пасля вайны служыў ён у войску ў Познані, дзе даслужыўся звання падпалкоўніка. Памёр там у 1982 годзе.

Я — удава, але часта наведваюць мяне дзеці, унукі і астатняя сям'я. Прабую яшчэ спяваць на кліpace, выступала з хорам на фестывалях царкоўнай музыкі ў 1990 і 1993 гадах.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Рэпрадукцыі аўтара*

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прыснілася мне сястра-нябожчыца. Я, хаця сплю, добра памятаю, што яна памерла. А тут раптам з'явілася жывая, я цешуся, проста не веру сваім вачам. Здаецца мне, што я памылялася, думаючы, быццам яе няма ўжо ў жывых. Шчасце перапоўніла маё сэрца. І ўжо я не ведаю, ці верыць у тое, што яна не жыве, ці лепш паверыць у тое, што яе смерць была толькі маім кашмарным сном.

Я бачу навокал цудоўную прыроду. Залатая восень. Я быццам знаходжуся ў нейкай невялікай мясцовасці. Бачу шырокую вуліцу. Дрэвы жоўтыя і чырвоныя, а некаторыя засталіся зялёныя. Сонечнае надвор'е, імгелка.

Сястра ідзе па вуліцы да нашага (а мо не нашага) вялікага драўлянага дома. Дом стараваты, вялікі, як на карцінах з XIX стагоддзя.

Я бачу, што сястра нясе ў руках прыгожыя, надта белыя булкі. І раптам: бразь! — яна павалілася ў балота, якое стаяла пасярэдзіне вуліцы.

І ўжо яна ў нейкай немачы, як бы з таго свету, ляжыць у гэтым балоце. Мне цяжка.

Я ведаю, што гэта нядобры сон, але чакаю твайго пацвярджэння.

**Жэня**

Жэня! Сон даволі складаны. Мяркую, што выявіліся ў ім твае мары пра тое, каб мець сястру, твой жаль па ёй. Відаць, ніяк не можаш ты згадзіцца з тым, што яе няма ўжо сярод жывых. У тваім сэрцы засталася яна назаўсёды.

Іншая справа, што добрага гэты сон не прадвяшчае. Наадварот, твой душэўны спакой (пра які гаворыць тая залатая восень і дом як з карцінкі) парушыць непрыемная справа. Мяркую, што будзе яна звязана з нейкімі фінансавымі брудамі, у выніку якіх ты будзеш у патрэбе.

**Астрон**

# Бацькоўская прыстань або Апошні з магікан

Пасля вайны рашылі астацца на невялікім акрайчыку поля, з польскага боку граніцы і пабудаваць свой уласны дом. Пасля многіх гадоў блукання па стэпах Казахстана ведалі ўжо, што такое краіна роўнасці і дабрабыту.

Хутка вырас дом і гаспадарчыя будынкі. Памаглі суседзі. Было ў іх шмат ахвоты да працы, будавалі ж сваё новае жыллё. Непрыкметна ішоў час, дзеці выраслі і выехалі ў горад. Старыя асталіся самі з незамужняй дачкой, якой трэба было апекавацца. Плылі гады, бы тыя хвалі, і не стала нашых гаспадароў. Амаль адначасова завіталі на той свет. Людзі казалі, што адно не магло жыць без другога. Бліжэйшыя суседзі, якія жылі на калёніі таксама развіталіся з гэтым светам. Дачка выехала да сястры Олі.

Дом апусцеў. Калі Оля перайшла на пенсію, рашыла вярнуцца ў бацькоўскія пароґі. Кватэру ў горадзе перапісалі на сына і перабраліся „пад граніцу”. Дом зноў ажыў. Зрабілі рамонт, пра ўсё задбалі. Асабліва прыгожа выглядае дом вясной, калі квітнеюць сады. Суседняе жыллё ажывае толькі ў уік-энды, гэта ўжо толькі дача. Апошняя з магікан старэюць на ўскраіне акружаючай іх Белавежскай пушчы. Як доўга яшчэ тут здолеюць прапрываць? За сцяной лясы Беларусі. Часамі чуваць адтуль сабачы брэх і гул трактара. Ранкам і вечарам працуюць электрадаілкі. Там таксама жывуць апошнія з магікан.

**Славамір Кулік**

# Водаправоды і дарогі

Апошнім часам у Нараўчанскай гміне закончылі пабудову водаправодаў у калёніях вёсак Скупава, Старое Ляўкова, Лешукі і Міхнаўка. Цяпер будуюць водаправод у Капітаншчыне. Пабудавалі жвіровую дарогу ад шашы ў Хоміншчыну ды аднавілі гравейку з Лешукоў у Міхнаўку і з Новай Лукі ў Людвінова, а таксама вуліцу ў Новай Луцэ. Палажылі асфальт на некалькі сотнях метраў вуліц Адама Міцкевіча і Новай у Нараўцы. На адным баку нараўчанскай вуліцы Новай праклалі тратуар, а ў іншым месцы гэтай дарогі — каля Гміннага цэнтра культуры — пабудавалі стаянку аўтамабіляў. Выгадна хадзіць зараз па адной з галоўных вуліц вёскі Семяноўка — тут пабудавалі тратуары.

Новымі замянілі электраўстаноўкі вулічнага асвятлення ў Баб'яй Гары, Бярнацкім Мосце, Леснай, Падляўкове і ў Забрадах.

**(гай)**

***Hiba***, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: *Яўген Мірановіч.*

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Варыяцыі пра нацыю

Калі яго баяцца,
Значыць, мае рацыю.

Калі яго баяцца,
Значыць, маюць рацыю,

Бо ў кожнае нацыі
Ёсць свая вар'яцыя.

І не трэба пхацца
Нам між дзверы з пальцам?!.

## Мастацтвахамствазнаўства

Нічым не замажаш звычайнае хамства,
Вучы хоць год трыццаць, давай у энцыклапедыю!
Быць хамам сапраўдным — ну што за мастацтва!
Быць хамам з дыпломам? Зусім не камедыя.

Злуе нас таксама той хам на паркетах.
А кіньма ж, браткове, сяброўства з такімі!
З абодвух бакоў фальшывай манета,
Калі яе нават славяць у Ліме.

**Вандал Арлянскі**

# Пяшчоталянота

Свет спыніў дыханне, чакаючы, што скажа Біл Клінтан. Нейкі іншапланецянін мог бы падумаць, што ва ўсім светам чаканай прамове абнародуе ён нейкую новую касмічную праграму палётаў у напрамку чужой галактыкі, ці нейкія планы суперсучасных бурыльных зондаў, якія б маглі прабівацца навылет скрозь зямны шар і адтуль падымацца ў космас. Дудкі! Не туды яму дарога, бо ўвесь саноўны свет чакаў абнародавання ім яго прысакрэчаных подзвігаў у цялесных кантактах з нейкай Монікай Люінскі. Ну, і прэзідэнт сёе-тое сказаў, а разявакі пільна выслухалі.

Шаноўны чытач можа здзівіцца, чаму я дапытлівых і саноўнікаў, і простанароддзе называю звычайнымі разявакамі. Раблю гэта па вельмі простай прычыне: на схіле дваццатага стагоддзя людзі апынуліся ў такой сітуацыі, што не мусяць шмат чаго самі рабіць, а зэканомлены час прысвячаюць агляду актыўнасці другіх. Напрыклад перасталі нашы людзі самі спяваць, бо за іх нехта спявае ў тэлевізары ці радыёпрыёмніку, і тыя ж нашы людзі сядзяць гадзінамі і слухаюць яго паразяўляўшы раты. Не надта інакш выглядаюць справы і ў той галіне, у якой актыўнасць Клінтана выклікала такое сусветнае зацікаўленне. Праведзенае ў Германіі апытанне выявіла, што 50% тамашніх сужонскіх пар робіць тое, што быццам Клінтан рабіў з міс Люінскі, ад аднаго да чатырох разоў у месяц, а апошнія 50% — яшчэ менш таго! Здавалася б, што мноства эратычных перадач у нямецкамоўных тэлеканалах павінна адмыслова ўзбуджаць багатых бюргераў, але, як відаць, атрымоўваецца дакладна наадварот — мноства такіх перадач акурат разгультайвае некалі легендарна працавітых немцаў.

Дарэчы, у багатых краінах, якія крыху на захад ад нас, многа робіцца дзеля разгультайвання тамашніх людзей. У Францыі адзін карчмар сваім сталавальнікам падсыпаў у ежу віягру. Хацеў, відаць, той добры чалавек актывізаваць сямейнасць сваіх гасцей, аднак яго ініцыятыва заміж энтузіязму выклікала зусім другое зацікаўленне тамашняга правасуддзя. Адзін дваццацішасцігадовы італьянец выбраўся на бальмаскарад у выглядзе гарылы, дык яго працаўнікі заапарка падстрэлілі транквілізатарам; каб супакоіць, значыць — разляніўшы. А адзін сямідзесяцічатырохгадовы француз, які ўсё жыццё шчыра гандляваў старымі аўтамабілямі, сам жахнуўся на схіле гадоў сваёй руплівасцю і загадаў у завяшчанні, каб яго пахавалі ў пажарным вогнеўстойлівым касцюме. Дайшоў ён да вываду, што за сваю пажыццёвую актыўнасць ён напэўна апынецца ў пякельным агні і такі касцюм аблегчыць яму тую пякельную долю. А зноў іспанскі святар, які згубіў ключы да свайго касцёла, таксама ўлавіў дух эпохі і зусім адказаўся ад усялякіх ключоў.

Разгультайванне не мінавала і беднай Афрыкі. У Гане адзін саракапяцігадовы карлік займаўся продажам школьных дошак. Зайшоў ён у адну школу, а там аднесліся да яго, як да звычайнага вучня: абвінавацілі яго, што ён адсутнічае на ўроку і, уляпіўшы шэсць — прадбачаных школьным статутам — udараў бамбукавым кіем, паставілі на тры гадзіны ў куток; не будзе ім такі прыносіць прылады для працы!

У нашым, славянскім, куточку свету актыўнасць кіпіць, хаця і Клінтанавы подзвігі нам не абыякавы. Наш сусветна вядомы Прэзідэнт арганізуе працоўнае спаборніцтва падчас палявых работ. На Украіне ж дырэктарам заводаў, якія лянуюцца плаціць падаткі, урад рашыў забіраць службовыя аўтамабілі: лянуешся плаціць — будзеш пяшком хадзіць! У Расеі прамову Клінтана папярэдзіла павышаная рынкавая актыўнасць: небывалы рост курсу долара — даваяраюць расейцы прэзідэнту (амерыканскаму, разумеецца). А наша Польшча без аглядкі рвецца ў Еўрапейскі Саюз; каб было нам так выгадна, як у Германіі: 50% час ад часу *лицом к лицу*, а 50% — і без таго.

**Адам Маньяк**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 3. левы прыток Дняпра, 8. прозвішча братоў Францішка (1709—86) і Ізы (1722—95), чэшскіх кампазітараў, 9. вялікая яшчарка, якая жыве ў абедзвюх Амерыках, на Мадагаскары і на Фіджы, 10. Эдзіт, французская спявачка (1915—63), 11. імя Дастаеўскага і Шаляпіна, 13. мыс на Ругене, дзе знаходзіўся старaславянскі цэнтр пакланення Святавіту, знішчаны ў 1168 г. датчанамі, 15. штат на захадзе Індыі, 16. заквашаны корм з зялёных частак раслін, 20. помста, 22. дзесятая частка літра, 23. спалучэнне гукаў, якія вымаўляюцца адным штуршком выдыхнутага паветра, 27. даўнейшае верхняе адзенне, часта падшытае футрам, 29. Альбрэхт, нямецкі жывапісец і тэарэтык мастацтва (1471—1528), 30. Заір, беларускі скульптар (1905—95), 31. твор Джэймса Джойса, 32. абслугоўвае царкоўныя званы, 33. пасеяўшы яго, збярэш буру, 34. прыстасаванне, дзе распальваюць агонь.

**Вертыкальна:** 1. Шандар, венгерскі паэт (1823—49), 2. гарады бярэ, 4. Джон, амерыканскі астранаўт, член экіпажа „Апалона-13" (Swigert), 5. Серж, французскі балетмайстар (1905-86), 6. геаметрычны аб'ект, які не мае вымярэння, 7. жонка Юпітэра, 12. горад у Заходняй Фландрыі, 14. пасведчанне атрымання, 16. віно з яблычнага соку, 17. у заканадаўстве ВКЛ пэўны след злачынства і яго доказ, 18. найменаваная вобласць даных у памяці камп'ютэра, 19. паэт і музыкант, выканаўца ўласных песень, 21. старажытнагрэчаская багіня палявання, 24. гара на Каўказе, 5033 м., 25. талісман, 26. выклікае здзіўленне, 27. Вілі, нямецкі палітык (1913—92), 28. горад у Балівіі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 30 нумара**

**Гарызантальна:** харыст, Станюта, ракета, дадатак, Італія, алапат, армянка, ястраб, асалода, разгар.

**Вертыкальна:** асадка, хандра, люстра, харкі, рыкша, суткі, тымпан, лінкор, ясакар, ласка, парог, табар.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Лекар да хворага:
— Запісваю вам лек ад бяссонніцы; ён дазволіць вам спакойна праспаць цэлую ноч.
— Выдатна! А як яго прымяняць?
— Прымаць кожныя дзве гадзіны.

* * *

Акуліст уважліва глядзіць у вочы пацыенту:
— Сёння на снеданне вы елі мяккае яйка.
— Ці гэта відаць з маіх вачэй?
— Не, з вашага гальштука.

* * *

— Што вам трэба даць, — пытае старэча маладзіцу, — каб вы дазволілі мне вас пацалаваць?
— Наркоз.

* * *

Муж заказвае юбілейны торт для жонкі.
— Колькі ўставіць свечак? — пытае прадаўшчыца.
— Дваццаць пяць, як заўсёды.

* * *

Пацыент расказвае псіхіятру пра свае клопаты:
— Штоноч праследуе мяне той самы кашмарны сон. Сніцца мне, што па цэлым доме ганяе мяне цешча з кракадзілам на ланцугу. Бачу тыя вытарашчаныя вочы, шаршавы лоб, вострыя зубіска...
— Гэта сапраўды страшна, — падтаквае лекар.
— Так, а кракадзіл выглядаў яшчэ горш!

* * *

Муж прыходзіць на пастарунак і заяўляе, што прапала яму жонка.
— Як яна выглядае? — пытае паліцыянт.
— Мае рэдкія, пратлушчаныя сівыя валасы, вытарашчаныя вочы вадзяністага колеру, згорбленая, кульгае, мае паморшчаную шыю... Цьфу! Не шукайце яе!

* * *

На навагоднім вечары малады мужчына захоплены красою аднае жанчыны пастаянна запрашае яе танцаваць.
— Калі танцую з вамі, — прызнаецца ён, — здаецца мне, што танцы доўжацца толькі хвілінку.
— Гэта вам не здаецца. Загадчыкам аркестра з'яўляецца мой нарачоны.

* * *

Нарачоныя перад шлюбам:
— Не думай, каханая, што сужонства, гэта толькі адны прыемнасці; трэба будзе варыць абеды...
— А табе, даражэнькі, трэба будзе іх есці.